PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 24 (2248) Год XLIV Беласток 13 чэрвеня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Будуць выбіраць дырэктараў

VIII Сесія Рады Гайнаўскага павета адбылася 26 мая 1999 года. У час сустрэчы прыняты былі, між іншым, пастановы наконт правядзення конкурсаў на пасады дырэктараў Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, Комплексу лясных школ у Белавежы і Комплексу спецыяльных школ у Гайнаўцы.

— У выпадку Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы выбар дырэктара неабходны, бо на месцы Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання паўстане (1 верасня 1999 г. — А. М.) новы комплекс школ, у склад якога ўвойдуць ліцэй і гімназія, — паясніў намеснік старасты Гайнаўскага павета Ежы Сірак.

Пастанова Рады павета аб стварэнні Комплексу школ з навучаннем беларускай мовы, аб чым раней мы пісалі, атрымала адмоўную ацэнку Куратарыі і была адхілена ваяводам. Рада павета прыняла тады пастанову аб новай назве — Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы.

Прашэнні кандыдатаў на пасады дырэктараў разглядаць будуць створаныя на пасяджэнні спецыяльныя камісіі. У іх склад увайшлі па два прадстаўнікі Рады павета, па два настаўнікі са згаданых школ, па два прадстаўнікі ад Рады бацькоў, па дзве асобы з Куратарыі і па адной асобе ад прафсаюзаў, якія дзейнічаюць у школах. Пасля 15 чэрвеня будуць яны разглядаць прашэнні і ў тайным галасаванні вырашаць пра найлепшых кандыдатаў. Назначаць на пасады дырэктараў будуць ужо радныя павета.

У час пасяджэння разглядалася таксама просьба кіраўніка Гмінная асяродка здароўя ў Чыжах Славаміра Гацкевіча, які хоча наймаць ад Самастойнага грамадскага комплексу аховы здароўя ў Гайнаўцы тры памяшканні ў Асяродку здароўя у Чыжах. Радныя станоўча аднесліся да просьбы і прадпадобна лекар Славамір Гацкевіч будзе адным з першых на Гайнаўшчыне, які падпіша непасрэдную дамову з Падляшскай касай хворых і стане вясковым сямейным лекарам.

На спатканні прыняты быў таксама статут Дома грамадскай дапамогі ў Белавежы, радныя вялі таксама дыскусію наконт аплатаў за праверку стану здароўя вучняў, якія паступаюць у сярэднія школы і пажарнікаў-ахвотнікаў, якія прымаюць удзел у спаборніцтвах. У выпадку пажарнікаў ні Комплекс аховы здароўя, ні гмінныя ўлады не вырашылі, хто верне грошы за бясплатную праверку стану здароўя. Пасля зменаў у галіне аховы здароўя штораз часцей на пасяджэннях Рады павета паяўляюцца пытанні наконт гэтай галіны жыцця.

Аляксей МАРОЗ



У падрыхтоўку выстаўкі заангажаваліся вучні Пачатковай школы.

## З альбома Яўгена Аніські

Ганна КАНДРАЦЮК

Такі загаловак атрымала фатаграфічная выстаўка, якая працуе ў будынку Пачатковай школы ў Ягуштове. Частка фотаздымкаў датычыць самой асобы Яўгена Аніські. Тут знойдзем цыклы „Партрэты сям'і”, „Дзяцінства”, „Міцкуны”, „Яўген Аніська, брат Браніслаў”, „Золак”, „Віленская беларуская гімназія”. Другую частку выстаўкі складаюць фатаграфіі зробленыя Яўгенам Аніськам. Менавіта гэты беларускі нацыянальны дзеяч быў выдатным фотааматарам. У яго фотааб'ектыве захаваліся краязнаўчыя і грамадскія вобразы. На выстаўцы прэзентуюцца здымкі з паездкі ў Беларусь — „Падзвінне (1962-1974)” як і мясцовыя краявіды. Тут можна адшукаць будынак царскага палаца ў Белавежы (ужо неіснуючага), гандаль 60-х гадоў на рынку ў Бельску ці першамайскія шэсці ў Ягуштове, Бельску і Варшаве. На выстаўцы шмат месца адведзена самой школе ў Ягуштове, дзе працаваў і жыў Яўген Аніська. Школьныя ўрачыстасці, сустрэчы з цікавымі людзьмі, гастролі беларускіх хораў, між іншым, „Лявоніхі”. Шырокі цыкл складаюць партрэты мясцовых людзей.

— На выстаўцы экспануюцца далёка не ўсе фатаграфіі Яўгена Аніські. Многія з іх разышліся па людзях, — гаварыў арганізатар сустрэчы Дарафей Фіёнік. Фатаграфічны архіў Яўгена Аніські доўгі час не выклікаў зацікаўлення. Запакаваны ў кардонныя каробкі чакаў сваіх дзён і належнай увагі ў бакоўцы школы, дзе і раней была ягоная кватэра. Архіву пашчасціла перартываць рамонт школы. Як сказаў дырэктар гімназіі Міраслаў Хаманюк, не заўсёды ўяўляем сабе каштоўнасць усялякіх памятак знойдзеных на гарышчы. Выстаўка „З альбома Яўгена Аніські” — добры ўрок знаёмства з Малой Айчынай тым больш, што ў падрыхтоўку экспазіцыі заангажаваліся мясцовыя вучні.

Арганізатарамі мерапрыемства былі: Беларускае гістарычнае таварыства, школа ў Ягуштове, прыватны музей у Студзіводах. На выстаўку тлумна прыбылі жыхары Ягуштова. Сустрэча сталася непаўторнай нагодай для ўспа-

[працяг ☞ 8]

*Яўген АНІСЬКА (сын Канстанцыі і Язэпа) нарадзіўся 10 ліпеня 1910 года ў Санкт-Пецярбургу, дзе ў той час яго бацька працаваў настаўнікам. Пасля I сусветнай вайны сям'я Аніськаў пераехала ў Шальціны Браслаўскага павета ў Заходняй Беларусі, родную вёску бацькі. У міжваенны перыяд вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, пасля ў Друйскай. Быў членам гуртка Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры ў Шальцінах. Вёў выдавецкую дзейнасць, быў рэдактарам 1 і 3-6 нумароў „Золаку”. Належаў да эліты беларускіх дзеячаў у Вільні і быў блізкім сябрам доктара Мікалая Чарнецкага. У час вайны ўключыўся ў дзейнасць Беларускага аддзела Літоўскага чырвонага крыжа, працаваў у Індурскай беларускай гімназіі. Пасля вайны астаўся ў Савецкай Беларусі, дзе за ранейшую дзейнасць прыйшлося яму пацярпець. У 50-я гады навучаў ў Міцкунах на Браслаўшчыне. У 1957 годзе пераехаў у Польшчу, працаваў настаўнікам беларускай мовы ў Ягуштове непадалёк Бельска-Падляшскага. У памяці жыхароў Ягуштова запісаўся залатымі літарамі. Школа сталася культурным цэнтрам мясціны. Яўген Аніська арганізаваў тут шахматны гурток, ансамбль мандалiністаў, дэкламатарскі гуртток беларускай паэзіі і прозы, ладзіў сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, вёў гуртток фотааматараў. Памёр у 1996 годзе ў Шчацінку на 86 годзе жыцця.*

## Такі дождж...

30 мая дзень быў спякотным, але нечакана, калі перад натоўпам маладых людзей пачала выступаць расейская поп-група „Манга-Манга”, пачалася навальніца. Тысячы хлопцаў і дзяўчат са смехам і крыкамі кінуліся да падземнага перахода ў станцыю метро „Няміга”.

[трагедыя ☞ 2]

## Пра... Дзяржынскага ў Гродне

У абозе наступаўшага войска ўжо ехаў будучы ўрад — Польскі рэвалюцыйны камітэт на чале з камуністамі Ю. Мархлеўскім і Ф. Дзяржынскім. Вось тады 1-2 жніўня Дзяржынскі і спыняўся ў Гродне па дарозе ў Беласток. Але 16 жніўня палякі перайшлі ў контрнаступленне. Уцёк з Беластока на ўсход і Польрэўком. Звестак пра тое, ці спыняўся на гэты раз у Гродне Фелікс Эдмундавіч, няма.

[гісторыя ☞ 4]

## Выява падсвядомасці

На выстаўцы былі паказаны карціны, якія Мікола Давідзюк намаляваў за апошнія чатыры гады. Чытач наш знаёмы з графічнымі эскізамі мастака, якія да нядаўна паяўляліся на нашай літаратурнай старонцы; былі гэта галоўным чынам чалавечыя сілуэты. У карцінах апошняга часу мастак абмежаваўся толькі да твару. Твары на яго палотнах выяўляюць шматграннасць чалавечай псіхікі, складанасць і супярэчлівасць яе састаўных.

[выстаўка ☞ 5]

## Каб не змаўкалі іх песні

19 чэрвеня ў Нараўцы мае адбыцца мерапрыемства з цыкла прэзентацый народных традыцый. Меляшкоўскі самабытны калектыў надта падыходзіў бы да нараўчанскіх „прэзентацый”, і добра было б, каб кабеткі мабілізаваліся, крыху паспявалі, а пасля выступілі там, і паказалі сваё майстэрства ды харство народнай песні.

[фальклор ☞ 8]

## Ваенная і мірная служба

Абучалі нас два-тры тыдні. Потым прынялі ад нас прысягу і адразу паслалі ў горы. Наша бельская група служыла ў 32 Будзішынскім стралковым палку. Нас паслалі ў аўстрыйскія казармы, дзе арганізавалі нам падафіцэрскую школу. Казармы былі разбураныя і заняткі найчасцей адбываліся пад адкрытым небам, у полі, у лесе, у стралковым ланцугу.

[успаміны ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## Такі дождж мог быць толькі ў Беларусі

Яшчэ доўга Беларусь не зможа адысці ад шоку пасля трагедыі 30 мая, калі не ў выніку катастрофы, тэракту, землятрусу ці паводкі, а ў выніку дажджу загінула больш паўсотні людзей, некалькі соцень пакалечаны.

Па шматлікіх публікацыях сведкаў трагедыі ў дзяржаўных і незалежных газетах, па праграмах радыё і тэлебачання можна скласці прыкладнае апісанне той жахлівай падзеі.

Цэлы дзень каля мінскага Палаца спорту на праспекце Машэрава праходзілі забаўляльныя мерапрыемствы для моладзі. Усё адбывалася з ведама і дазволу ўлад. Мінскую моладзь некалькі дзён запар агітавалі прыйсці на гадавіну праўрадавай радыёстанцыі „Мір", паўдзельнічаць у розыгрышы прызоў ад вытворцы цыгарэт „Магна", пачаставацца півам ад завода „Алівария".

30 мая дзень быў спякотным, але нечакана, калі перад натоўпам маладых людзей пачала выступаць расейская поп-група „Манга-Манга", пачалася навальніца. Тысячы хлопцаў і дзяўчат са смехам і крыкамі кінуліся да падземнага перахода ў станцыю метро „Няміга". Па правілах адразу такую колькасць людзей у метро пускаць нельга (ёсць небяспека патрапіць пад цягнік). Таму міліцыя перакрыла ўваход у метро. Перад прыступкамі падземнага перахода шматлюдны натоўп спрабавалі спыніць пяць (!) міліцыянераў. Аднак іх адразу змяла людская маса. На слізкіх ад дажджу прыступках дзяўчаты ў пантофлях на высокіх абцасах пачалі падаць. На іх навальвалася ўсё больш народу. Спробы спыніць людзей не атрымаліся. Тыя, што беглі ззаду, проста не ведалі, што адбываецца, моладзь думала, што АМАПаўцы проста не хочуць пускаць людзей у метро. Нарэшце міліцыянеры „здагадаліся" (так пасля сказаў Аляксандр Лукашэнка) адсекчы напіраючы натоўп народу ад уваходу ў падземны пераход. Але было ўжо позна.

Па ўдакладненых праз некалькі дзён даных, загінулі 52 чалавекі. З іх 42 — зусім маладзенькія дзяўчыны. Сотні людзей звярнуліся па лекарскую дапамогу. Больш сямідзесяці ляжыць у шпіталях. Каля дзесяці ў цяжкім стане. Самай маладой ахвяры было 13 гадоў, самай старэйшай — 59. Але ў сярэднім загінулі маладыя людзі ад 16 да 20 гадоў.

Усё адбывалася 10 хвілін. Яны і падзеі пасля выявілі як герояў, так і цынічных мярзотнікаў.

Застаўшыяся ў жывых удзельніцы страшэннай цісканіны расказвалі, як іх ратавалі незнаёмыя хлопцы і мужчыны, якія, рызыкуючы жыццём, выцягвалі дзяўчат з-пад навалы целаў. Спыняліся прыватныя машыны і развозілі параненых па шпіталях. Урачы працавалі ўсю ноч, не адыходзячы ні на хвіліну ад хворых. Ратуючы людзей загінулі два маладыя міліцыянеры, якія не былі ў той час на службе, а праходзілі з жонкамі побач месца здарэння і кінуліся дапамагаць людзям.

Аднак было і другое. Сведкі расказвалі, як п'яныя дзецюкі, разганяючыся, урэзваліся ў натоўп, не звяртаючы ўвагі на крыкі людзей, бо ад алкаголю не разумелі, што робіцца. Нехта ратаваўся, забіваючы бліжняга.

На наступны дзень галоўным героем Беларускага тэлебачання стаў Аляксандр Лукашэнка. У перапынках паміж канцэртамі жалобнай музыкі БТ паказвала, як ён ускладае кветкі на месцы здарэння, як вядзе пасяджэнне сваіх падначаленых, як ходзіць па бальніцах і размаўляе з пакалечанымі і лекарамі. Раніцай 31 мая сам Аляксандр Лукашэнка папрасіў у беларускага народа нікога не абвінавачваць у трагедыі і не ўмешваць у яе палітыку. Ён жа першы і перавёў усё ў чарговае папуліцкае мерапрыемства. Усе дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі адзначылі, што першым усклаў кветкі у падземным пераходзе прэзідэнт, што ён асабіста прыехаў у адзін са шпіталяў, каб даведацца, ці хапае лекаў (быццам не мог патэлефанаваць). Вечарам 31 мая пры размове з журналістамі на твары Лукашэнкі ўжо некалькі разоў з'яўлялася ўсмешка. Аднак гэта не перашкодзіла яму сказаць, што кожны загінуўшы — гэта рубец на яго ным сэрцы. Адначасова прэзідэнт зрабіў некаторыя палітычныя высновы: „Вот демократия. Давай будем ходить, пока кого-нибудь где-нибудь не придушило. Чуть президент где-то там пальцем пошевилил, значит президент диктатор". Лукашэнка мяркуе, што да трагедыі прывяла „бесшабашность" як людзей, так і ўлад і паабяцаў зрабіць жорсткія высновы. Толькі невядома да каго, бо афіцыйнае абвінавачванне ў здарэнні атрымаў толькі дождж. Гарадскія ўлады, міліцыя, лекары, усе дзяржаўныя структуры, на думку Лукашэнкі, дзейнічалі на высокім ўзроўні.

Іншае меркаванне ў вядомых апазіцыйных палітыкаў. Яны стварылі грамадскую камісію па расследаванні абставін трагедыі 30 мая на чале з Лявонам Баршчэўскім. У газеце „Народная воля" за 3 чэрвеня была надрукавана заява, якую падпісалі палітычныя і грамадскія дзеячы. У дакуменце гаворыцца, што сілавыя структуры створаны ў Беларусі для абароны рэжыму, а не людзей. „Ужо некалькі гадоў рэжым Лукашэнкі спрабуе падкупіць моладзь і здабыць „сімпатыі" збяднелага народа пры дапамозе прымітыўнага рэцэпта — спойвання", — гаворыцца ў заяве.

На такія высновы ёсць важкія прычыны. Са здзіўляючым пастаянствам у розных гарадах Беларусі адбываюцца масавыя гулянні, якія арганізоўваюцца ўладамі. Пры гэтым на іх алкаголь цячэ ракой. Міліцыя на п'яных звычайна не звяртае ўвагі. Хаця на трагічным мерапрыемстве 30 мая гарэлка не прадавалася і, па афіцыйных звестках, у крыві загінуўшых алкаголю не знойдзена, але п'янай моладзі там было дастаткова. А беларуская міліцыя добра навучана разганяць апазіцыйныя маніфестацыі і не ведае, што рабіць, калі трэба ратаваць людзей.

**Зміцер Кісель**

## Адпачынак па-беларуску

Для гарадскога насельніцтва Беларусі, як і па ўсёй Еўропе, лета — гэта час адпачынку. Аднак беларусы яго праводзяць даволі арыгінальным спосабам.

У часы будаўніцтва „рынкавага сацыялізму" пад кіраўніцтвам Аляксандра Лукашэнкі колькасць людзей, што могуць сабе дазволіць правесці вольны час каля мора дзе-небудзь на поўдні скарацілася да адзінак. Большасць жыхароў Беларусі ўсё лета праводзіць на радзіме.

Людзі сталага і сярэдняга ўзросту кожную вольную хвіліну імкнуцца прысвяціць працы на сваіх загарадных агародах, якія называюцца „дачамі". Дачныя пасёлкі, падзеленая на кавалачкі зямля ў шэсць сотак, шчыльна акружаюць беларускія гарады. На іх вырошчваецца ўсё, што можа нарадзіць зямля. З раніцы да вечара корпаюцца людзі на сваіх агародзіках. Робяць яны гэта не для задавальнення, а для забеспячэння сваіх сем'яў гароднінай. Працуюць самааддана. Кожны год дзесяткі пенсіянераў паміраюць на дачах ад інфаркту ці інсульту з рыдлёўкай у руках. Усе доказы моладзі, што такая ахвярнасць не патрэбна, на сталых людзей не дзейнічае. Яны ў сваю чаргу крыўдзяцца на дзяцей за нежаданне дапамагаць у працы на дачах. Па гэтаму пытанню на Беларусі ўзнікае своеасаблівы канфлікт пакаленняў.

Старыя прызвычаіліся за гады савецкай улады, што мецъ „дармовую" бульбачку, цыбульку, агуркі і г.д. з'яўляецца добрым дадаткам да асноўнага заробку. Свае высілкі яны ніколі не лічылі нечым каштоўным. Моладзь, якая на афіцыйнай працы атрымоўвае 20-30 долараў у месяц, імкнецца непрацоўны час выкарыстаць для заробку нармальных грошай, за якія можна купіць усё неабходнае, у тым ліку і гародніну. А калі знойдзецца вольная хвіліна, дзецюкі хочуць як правесці дзе-небудзь на беразе рэчкі ці возера.

Аднак адпачынкавы бізнес у Беларусі памёр некалькі гадоў таму, нават не паспеўшы як след нарадзіцца. Шматлікія турыстычныя фірмы прапаноўваюць або паездкі за мяжу па недаступных коштах, або пуцёўкі ў мясцовыя дамы адпачынку, дзе кошты трохі ніжэйшыя, але там такі сервіс, што адпачываючыя самі павінны атрымоўваць грошы... за пакуты.

Таму людзі самі арганізоўваюць свой вольны час. У спякотныя дні яны імкнуцца да вады. Прырода шчодра надзяліла Беларусь рэчкамі і азёрамі. Аднак савецкі чалавек паклапаціўся пра тое, каб сапсаваць гэты Божы дар.

Напрыклад, традыцыйным месцам адпачынку гарадзенцаў заўсёды быў Нёман. Але ўжо шмат гадоў купацца ў ім небяспечна для здароўя. Калісьці савецкі ўрад зрабіў Беларусь адным вялікім свінагадоўчым комплексам. Уверх па цячэнню Нёмана ад Гродна стаіць некалькі свінафермаў, адыходы з якіх цякуць у раку. Не дадае чысціні і гарадская каналізацыя, па якой падчас дажджу з вуліц цячэ брудная вада. У вынiку лекары не раяць гараджанам купацца ў рэчцы ў межах горада. Праўда, людзі ўсё роўна плёскаюцца ў карычневай вадзе. Паехаць на больш-менш чыстыя азёры могуць толькі ўладальнікі аўтамабіляў. Такіх зараз нямала. Аднак пад'езды да месцаў адпачынку амаль нідзе не зроблены. Аўтастаянак няма.

Сапраўднай пагрозай для лясоў сталі пластыкавыя бутэлькі з-пад напояў. Яны ляжаць паўсюль. Можна абвінавачваць людзей у неахайнасці, але калі няма сметнікаў у месцах масавых сходаў людзей, горы смецця з'яўляюцца ў самых нечаканых месцах. Так, на беразе бліжэйшага да Гродна штучнага возера „Юбілейнае" ў цэнтры такой гары стаіць знак з надпісам „Свалка мусора запрещена".

Праўда, уладамі нешта ўсё ж робіцца для таго, каб людзі не былі незадаволенымі. У гродзенскіх крамах прадаецца алкагольны напой пад назвай „Адпачынак". Мае ён 20 градусаў моцнасці, каштуе трохі больш за пляшку піва. Пасля пары бутэлек „Адпачынку" на брудную ваду і смецце ніхто ўвагі не звяртае.

**Зміцер Кісель**

## Закон нічога не вырашае

27 траўня, на апошнім у гэтым акадэмічным годзе Беларускім чацвяргу, арганізаваным Кафедрай беларускай культуры, у якасці дакладчыка выступіў дарадчык сеймавай Камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцей прафесар Гжэгаж Януш. Госць вельмі дакладна расказаў пра працэс распрацоўкі законапраекта аб нацыянальных меншасцях і праблемы, з якімі сустракалася камісія. Нядаўна мінула пятая гадавіна з таго часу, калі пачаліся працы над стварэннем гэтага законапраекта. Прафесар Гжэгаж Януш выказаў спадзяванне, што ў наступнай пяцігодцы будзе ён ажыццяўляцца на практыцы.

Паводле дакладчыка, Сейм папярэдняга склікання мог свабодна прыняць такі закон, але быў ён недапрацаваны. Сёння ўся надзея толькі ў Яцку Кураню, які сваім аўтарытэтам можа паўплываць на вынік галасавання. Парламентарыі ў справе закону аб нацыянальных меншасцях падзяліліся на дзве фракцыі. Адны лічыць, што такі закон патрэбны, другія мяркуюць, што на гэту тэму не варта нават гаварыць. Няма, як найчасцей гэта бывае ў іншых справах, групы дэпутатаў, якія абыякава ставяцца да праблемы. Найчасцей дэпутаты маюць выразна акрэсленую пазіцыю і, на жаль, у Сейме няма прыхільнай меншасцям парламенцкай большасці.

На працягу пяці гадоў працы Камісіі змест закона мяняўся некалькі разоў. Найбольш праблемаў выклікае справа ўстанаўлення органа, які каардынаваў бы нацыянальную палітыку ў Польшчы. Спачатку планавалася стварыць раду з удзелам прадстаўнікоў меншасцей, пасля вынікла справа ўпаўнаважанага, які назначаўся б прэм'ер-міністрам, пазней з'явілася канцэпцыя стварэння камітэта па справах нацыянальных і этнічных меншасцей і ў канцы запынілася на „прэзэсе ужэнду па справах...".

Шмат непаразуменняў і хваляванняў сярод паслоў выклікае справа выкарыстання роднай мовы меншасцей у публічным жыцці. Некаторыя польскія дэпутаты баяцца, што меншасці масава і дэманстратыўна захочуць у гмінах і паветах карыстацца роднай моваю, якую ўраднікі неабавязкова ведаюць. Дакладчык заўважыў, што шмат каму з парламентарыяў проста не хапае добрай волі і таму стараюць штораз новыя праблемы, каб не дапусціць да прыняцця гэтага закону.

Прафесар Гжэгаж Януш заявіў, што закон аб меншасцях ён сам таксама лічыць непатрэбным, але пры ўмове, што ўсе іншыя законы, а перш за ўсё канстытуцыя, будуць шанавацца ўладамі. Але пакуль яшчэ далёка да такога стану і таму, каб меншасці мелі магчымасць абараняць свае правы, трэба ім даць дзеля гэтага нейкія аргументы. Сам закон — сказаў дакладчык — нічога не вырашае і для яго ажыццяўлення неабходная добрая воля людзей, якія маюць або будуць мець кантакт з меншасцямі. А ў гэтай справе патрэбная адпаведная адукацыя амаль усяго грамадства.

**(ям)**

# Беларускі фэст у Дуброве-Беластоцкай

Распачаўся сезон беларускіх народных фэстаў, арганізаваных Галоўным праўленнем БГКТ супольна з мясцовымі ўладамі.

Першы ў гэтым годзе фэст адбыўся 29 мая ў Дуброве-Беластоцкай. Яркае сонца на бязвоблачным небе абагрэла атмасферу да трыццаці градусаў. Фэст адбыўся ў гарадскім амфітэатры, распаложаным у прыгожым сасновым лесе, у цяньку якога прыемна адпачывалася. Народу прыйшло так многа, што не ўсім хапіла сядзячых месц.

Фэст адкрыла дырэктар Гміннага асяродка культуры сімпатычная Ліля Александровіч. Прывітала яна сардэчна Яраслава Іванюка, журналіста беларускіх радыёперадач у Беластоку і ўсіх прысутных. Сцвердзіла, што ўжо чатыры гады падрад праводзіцца ў Дуброве беларускія фэсты. Перадала яна голас Яну Сычэўскаму, паслу Сейма, старшыні ГП БГКТ.

Ян Сычэўскі сардэчна падзякаваў уладам Дубровы і старшыні Дуброўскага аддзела БГКТ Аркадзю Суліму за дапамогу ў арганізацыі фэсту. Падзякаваў таксама святарам праваслаўнага прыхода за інфармацыйную дапамогу ў паведамленні вернікаў аб фэсце.

Валянціна Ласкевіч, сакратар ГП БГКТ павяла канцэрт. Запрасіла яна на сцэну гасцей, народны калектыў песні і танца „Сваякі" з Мазыра на Беларусі. Паінфармавала прысутных, што калектыў прыехаў на фэст толькі дзякуючы дырэкцыі Нафтаперапрацоўчага завода і Мазырскага палаца культуры, якога прадстаўніца Таццяна Віктараўна Нягярэева прыехала з калектывам на фэст. Польскія таможнікі натруджаных доўгім падарожжам „Сваякоў" аж пяць гадзін пратрымалі на мяжы.

Выступленне „Сваякоў" прысутныя на фэсце ўспрынялі надзвычай сардэчна. Вельмі падабаліся галасістыя спевакі, добры аркестр, які ім акампанаваў і дасканалыя маладыя танцоры. Мазырскі калектыў выступаў два разы — на пачатак і на заканчэнне канцэрта.

Падабалася таксама прысутным выступленне вядомага ўжо не толькі ў Польшчы калектыву „Чарамшына" з Чаромхі, які тут паявіўся ўпершыню. Гэты калектыў толькі што вярнуўся з гастроляў у Італіі. Раней ён пабываў ужо ў Нямеччыне, Францыі і Галандыі і ўсюды цешыўся аграмадным поспехам.

Выступалі таксама на фэсце беларускія эстрадныя гурты „Капры" і „Прымакі" з Беластока. Асабліва падабаліся слухачам вясёлыя, жартаўлівыя „Прымакі", што паспрыяла распаўсюджанню іх магнітафонных касет.

На заканчэнне Валянціна Ласкевіч віншавала наймалодшых слухачоў з іх святам — Міжнародным днём дзіцяці, уручаючы ім ад імя ГП БГКТ поўную торбу шакаладных цукеркаў.

## ... і ў Саколцы

З зялёнай Дубровы ўсе калектывы пераехалі ў суседнюю Саколку. Тут фэст адбыўся ў горшых умовах — на пляцы перад будынкам мясцовага кінатэатра. Людзям давялося стаяць на двухгадзінным канцэрце.

Фэст адкрыў намеснік бурмістра Саколкі Чэслаў Санько, які сардэчна прывітаў віцэ-консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку Паўла Латушку з жонкай і дачушкай і пажадаў усім слухачам прыемных уражанняў ад канцэрта.

Ян Сычэўскі таксама падзякаваў мясцовым уладам і старшыні Сакольскага аддзела БГКТ Сяргею Крышаню за дапамогу ў падрыхтоўцы фэсту, а праваслаўным святарам за інфармацыйную акцыю.

У канцэрце выступілі ўсе калектывы, пераехаўшыя з Дубровы. Канцэртная праграма слухачам надта спадабалася, аб чым сведчыць той факт, што ніхто не адышоў перад яе заканчэннем, хаця напэўна людзі прытаміліся, стоячы нерухома дзве гадзіны ў промнях гарачага сонца.

На фэсце прадаваліся касеты мастацкіх калектываў з Беласточчыны і калектыва „Сваякі" з Мазыра.

Свае кніжкі падпісвалі Міхась Хмялеўскі і Віктар Швед. **В. Ш.**

# Дзіравыя дарогі



Арлянская гміна лідзіруе ў колькасці будаваных дарог, аднак не ў іх якасці. Напрыклад, кладзецца такую вузкую паласу асфальту, што на такой дарозе двум аўтамабілям немагчыма размінуцца. Таксама пласт смалы на будаваных ці рамантаваных дарогах настолькі тонкі, што лопае ўжо пад пяцітоннымі грузавікамі. Тады ставяць забараняльны знак з абмежаваннем вагі аўтамабіля. На праезджай частцы ўжо пасля першай зімы ствараюцца пераломы і калдобіны. Прыкладам таму можа быць дарога з Грэдалёў у Вульку-Выганоўскую. Разбітых дарог гмінныя ўлады не спяшаюцца рамантаваць. Шафёры наракаюць на дрэнны стан дарог, у выніку чаго ломяцца машыны і часцей здараюцца дарожныя аварыі.

Дрэнна будуюцца таксама падземныя водаадводныя каналы ўпоперак дарог. Робяць іх звычайна з бетонных труб і прытым без бетонных апораў. Пасля злівога дажджу вада размывае пясок і трубы разыходзяцца, ствараючы небяспечную лавушку ў выглядзе глыбокай ямы. Некалькі гадоў таму размыла канал ля двара ў Шчытах-Навадворах і ніхто яго не адрамантаваў. Здаўна клопат з водаадводным каналам маюць жыхары самой Орлі. Раней канал быў зроблены з камення і добра выконваў сваю ролю. Калі гміна паставіла бетонныя трубы, аб'ект стаў разбурацца і цяпер стварае вялікую небяспеку. Адказныя чыноўнікі нават не падумалі паставіць у гэтым месцы папераджальны знак.

За неахайнасць дарожных будаўнікоў плацяць падаткаплацельшчыкі. Заўвагі наконт дарог на сесіі выносяць толькі апазіцыйныя радныя, якіх войт звычайна ігнаруе. Каб дамагчыся нейкай рэакцыі з боку ўлад, прыходзіцца ім пісаць пісьмовыя заявы.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Не паказвайце нас у тэлевізары

Сакратар Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства **Валянціна Ласкевіч** лічыць, што ў Беластоцкім тэлебачанні не трэба больш часу для беларускіх перадач.

Сваё меркаванне на гэту тэму выказала яна на пасяджэнні Кансультацыйнай рады па справах нацыянальных меншасцей пры Аддзеле Польскага тэлебачання ў Беластоку, якое прайшло 29 сакавіка гэтага года. У пратаколе з пасяджэння запісана: „Pani Walentyna Łaskiewicz poruszyła natomiast sprawę zbierania przez Związek Białoruski podpisów w sprawie zwiększenia czasu antenowego programów białorusko-języcznych (так напісана ў арыгінале) i o tematyce białoruskiej na antenie OTV Białystok. Wspólnie z dyrektorem Puciłowskim wyrazili opinię, że w tej sprawie na dzień dzisiejszy nie ma to sensu i tak naprawdę poza manifestacją polityczną, nic nie daje".

Паню Валю здзіўляе таксама, што ў тэлебачанні працуюць беларусы. „W. Łaskiewicz i H. Romańczuk zapytały również, dlaczego aktualnie istniejące etaty w „Sami o Sobie" są dla dziennikarzy redakcji białoruskiej, — чытаем у тым жа пратаколе. — W odpowiedzi dyrektor Pucиłowski stwierdził: dziennikarze Jerzy Kalina i Mikołaj Wawrzeniuk nie są na etatach w Magazynie Mniejszości Narodowych „Sami o Sobie", tylko w OTV Białystok, a do Magazynu „Sami o Sobie" nie ma przypisanych żadnych etatów, poza tym obydwaj są dobrymi wszechstronnymi dziennikarzami i nie zajmują się tylko i wyłącznie mniejszościami, a również i innymi aktualnymi tematami na potrzeby innych redakcji — w tym anten centralnych".

**(ак)**



# Самі сабе

Саюз пенсіянераў і інвалідаў у Чаромсе арганізаваўся ў 1966 годзе. Старшынёй стаў Казімеж Сціхура, сакратаром — Мар'ян Сцігала.

Пачаткова гуртoк налічваў 15 членаў і належаў Гайнаўскаму праўленню. Ніякай тут дзейнасці не наглядалася апрача аплачвання членскіх узносаў.

У кастрычніку 1994 года ў Чаромсе адзначаўся Дзень сеніёра. Гэтае мерапрыемства стала нагодай для выбару новага сакратара гуртка, якім стаў Юзэф Дубковіч. У лютым наступнага года, у час выбарчай кампаніі, на сходзе ў Чаромсе ўдзельнічаў прадстаўнік Ваяводскага праўлення Саюза пенсіянераў Уладзімір Корх.

— Калі я памяркоўна выказаўся пра працу Гайнаўскага праўлення, — гаворыць Юзэф Дубковіч, старшыня чаромхаўскага гуртка Саюза пенсіянераў і інвалідаў, — запрапанаваў я стварыць самастойную (незалежную ад Гайнаўкі) арганізацыю. Прысутны на сходзе прадстаўнік Ваяводскага праўлення падтрымаў мяне. Але для таго патрабавалася адпаведная колькасць членаў — 150 чалавек. І пайшоў я па хатах у пошуках новых кандыдатаў. Незадоўга лік членаў вырас да 79 чалавек.

25 мая 1995 года быў склiканы сход, на якім ставіліся пытанні стварэння Гміннага праўлення. У час выбараў старшынёй стаў Юзэф Дубковіч, сакратаром — Дзмітры Гапанюк, а абавязкі скарбніка даручылі Валянціне Верамчук.

— Зараз наша арганізацыя налічвае 218 членаў, — гаворыць старшыня Дубковіч. — Тры-чатыры разы ў год арганізуем сустрэчы з мастацкай часткай і скромным пачастункам. У гэтым годзе, напрыклад, арганізавалі Навагодні баль у студзені, а ў сакавіку адзначылі Дзень жанчын.

— А чым наштодзень займаецеся? — пытаю старшыню.

— Арганізуем экскурсіі. Нядаўна з'ездзілі на Вармію і Мазуры. Пабывалі ў Ольштыне, Святой Ліпцы і Гярложы (каля Кентшына) у былой кватэры Гітлера. Наведваем таксама хворых людзей. Асабліва перад Новым годам заходзім да іх і віншуем з Калядамі і Новым годам. Не забываем пра юбіляраў. Кожнаму, каму спаўняецца 90 гадоў, уручаем падарункі. У мінулым годзе, напрыклад, для 25 асоб былі ўручаны камплекты пасцелі. Сёлета такіх юбіляраў у нас дзесяць. Кожнаму члену пасылаем паштоўкі з віншаваннямі з нагоды дня яго нараджэння.

— Адкуль у вас на гэта грошы?

— У асноўным гэта датацыя гміны, хоць і самі члены добраахвотна прызначаюць акрэсленыя сумы для гэтай справы. Калі, напрыклад, арганізавалі навагодні баль і папрасілі ўплаціць па 10 зл., ніхто не адмовіўся. Трэба адзначыць, што вялікую падтрымку маем з Гміннай управы, дзякуючы войту, які акуратна ставіцца да пенсіянераў.

— Каго лічыце ў сваім Саюзе самым старэйшым?

— Гэта 97-гадовая Анастасія Раманчук з Кузавы і яе аднагодак з вёскі Чаромха, Ян Кердалевіч сын Яна.

— А планы на бліжэйшы час?

— На чэрвень рыхтуем сустрэчу ў ГОКу, традыцыйную, з мастацкай часткай, пачастункам і забавай. Прытым і аб наступнай экскурсіі думаем. Мо гэтым разам з'ездзім у Майданак ці Асвенцім. Але маршрут экскурсіі няхай самі члены пакажуць. Мы да кожнай прапановы акуратна паставімся.

— Дзякую за размову і жадаю поспехаў.

**Уладзімір Сідарук**

# Пра „цуд над Віслай" і Дзяржынскага ў Гродне

Калі чалавек упершыню прыехаў у Гродна і ідзе па вуліцы Ажэшкі ў бок Віленскай вуліцы, то яму найперш кідаецца ў вочы велічны гмах аблвыканкома з чырвона-зялёным сцягам наверсе. А затым позірк міжвольна запыняецца на тарцовай сцяне суседняга двухпавярховага дома. Не столькі на самой сцяне, колькі на дзвюх мемарыяльных дошках.

Адна з іх — з надпісам (зразумела, па-руску) пра тое, што тут у ліпені-верасні 1920 года знаходзіўся Гродзенскі Ваенна-рэвалюцыйны камітэт, — не выклікае ніякіх асаблівых эмоцый. Другая, верхняя — здзіўляе. На ёй — барэльеф самога „Жалезнага Фелікса" і надпіс: „У гэтым будынку 1-2 жніўня 1920 года спыняўся Фелікс Эдмундавіч Дзяржынскі".

Думкі роем мітусяцца ў галаве. Дзіву даешся: якім ветрам занесла самага галоўнага чэкіста сюды, у тагачасны невялікі горад? Няўжо там, у Маскве, бракавала яму заняткаў па яго асноўнай чэкісцкай працы? Ці, можа, у гэтай глушы выявілася прытоенае асінае гняздо і спатрэбілася дапамога самога старшыні ВЧК („Всероссийская Чрезвычайная Комиссия") па барацьбе з контррэвалюцыяй?

Колькі б вы ні пыталіся ў кожнага сустрэчнага, у старых ці маладых людзей, з якой нагоды амаль восемдзесят гадоў таму наведаў гродзенцаў сам Дзяржынскі, ніхто нічога пэўнага не скажа. Толькі, відаць, лічаныя адзінкі ведаюць пра гэтую таямніцу. А хацелася б, каб пра нешматлікія ў нашым горадзе помнікі ды іншыя знакі ўшанавання ведалі ўсе ці амаль усе.

Паколькі прычыны візіту гэтага высокага госця цесна звязаныя з тагачаснымі падзеямі, у тым ліку і такімі маловядомымі, як „цуд над Віслай", зробім кароценькі экскурс у гісторыю.

18 лютага 1918 года нямецкія войскі перайшлі ў наступ і да 3 сакавіка, калі быў падпісаны Брэсцкі мірны дагавор, акупавалі амаль усю Беларусь (да лініі Орша — Магілёў — Гомель). 21 лютага 1918 года, яшчэ да ўступлення немцаў у Мінск, створаны на 1-ым Усебеларускім з'ездзе (снежань 1917 г.) выканаўчы орган, Выканком Савета з'езда, у сваёй 1-й Устаўной грамаце абвясціў сябе ўладай у Беларусі. Пасля былі 2-я і 3-я Устаўныя граматы, у якіх Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася „незалежнай і вольнай дзяржавай".

Вось пералік далейшых гістарычных падзей: адступленне нямецкага войска ў снежні 1918 года пасля лістападаўскай рэвалюцыі ў Германіі, вяртанне бальшавікоў і тэрміновае стварэнне 1 студзеня 1919 года Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь (ССРБ), перадача (праз паўтара месяца) Віцебскай, Смаленскай і Магілёўскай губерняў у склад РСФСР, аб'яднанне астатняй часткі Беларусі з Літвой і стварэнне Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Літвы і Беларусі (урад, у якім не было ніводнага беларуса, узначальваў Міцкявічус-Капсукас), прыход на Беларусь „новых акупантаў" (словы Я. Купалы) — палякаў (з 8.08.1919 па 10.07.1920 г.), выгнанне польскіх акупантаў савецкімі войскамі і аднаўленне ССРБ (31 ліпеня 1920 г.).

„Цуд над Віслай" — напаўзабытая старонка з гісторыі грамадзянскай вайны і няўдалай бальшавіцкай спробы „распаліць на гора ўсім буржуям сусветны пажар у крыві" (А. Блок). Як пісаў Я. Купала ў артыкуле „Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год" (1920), апублікаваным у беларускім друку падчас польскай акупацыі, „сацыяльная рэвалюцыя, якая загарэлася крывавым пажарам на ўсходзе Еўропы — у Расіі — і цяпер яшчэ палае ўсёпаядаючым полымем, стараецца ў сваім пабедным паходзе ніштожыць усялякія нацыянальныя перагародкі і злучыць пад чырвоным знаменем усе народы ўсяго свету. Наколькі ёй гэта ўдасца, пакажа будучыня, але пакуль што ўсе дзяржавы, апрача, разумеецца, Вялікарусі, усімі сіламі стараюцца адхрысціцца ад гэтага раю".

Вызваліўшы Беларусь ад польскіх акупантаў, Чырвоная Армія ў жніўні 1920 года рушыла на Варшаву з несумненным далейшым намерам не спыняцца толькі на адной Польшчы, а дайсці, магчыма, і да Ла-Манша. Камандаваў Заходнім фронтам М. Тухачэўскі, а яшчэ адным дадаткова прызначаным (з 9 жніўня) членам Рэвалюцыйна-ваеннага савета быў Дзяржынскі (ён жа — старшыня Польскага бюро Цэнтральнага камітэта Расійскай камуністычнай партыі бальшавікоў і, само сабой, старшыня ВЧК).

У абозе наступаўшага войска ўжо ехаў будучы ўрад — Польскі рэвалюцыйны камітэт на чале з камуністамі Ю. Мархлеўскім і Ф. Дзяржынскім. Вось тады 1-2 жніўня Дзяржынскі і спыняўся ў Гродне па дарозе ў Беласток, дзе пачаў ужо дзейнічаць Польрэўком, „часовы орган рэвалюцыйнай улады Польшчы". Гэты орган яшчэ 30 ліпеня выдаў маніфест — зварот да палякаў, у якім гаварылася, што Чырвоная Армія прыйшла не для таго, каб заняволіць Польшчу, а для „дапамогі польскаму народу ў яго барацьбе за сацыяльнае вызваленне". У маніфесце заклікалі польскі пралетарыят да паўстання супраць памешчыкаў і капіталістаў.

А сама Польшча ў гэтыя трывожныя дні ходырам хадзіла, бурліла, узднімалася, памятаючы пра 125-гадовую няволю пад гнётам царскай Расіі. Толькі адных добраахвотнікаў улілося ў войска больш за 160 тысяч.

Далей працытуем з „Нарысаў гісторыі Беларусі" (ч. 2, Мінск 1995, с. 48-49): „З пераносам баявых дзеянняў на тэрыторыю Польшчы выразна праступілі палітычныя матывы і мэты вайны з боку Савецкага ўрада. З абаранчальнай яна ператварылася ў сродак экспарту рэвалюцыі, спробу ўздыму сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі... Разлік на падтрымку польскага пралетарыяту, на ўздым рэвалюцыйнай хвалі ў Польшчы не апраўдаўся. Наадварот, адказам на наступ Чырвонай Арміі быў магутны нацыянальна-патрыятычны ўздым польскага народа ў абарону сваёй радзімы, сваёй незалежнасці". Прыкладна такую ж ацэнку падзей дае і сам Ленін, які незадоўга перад гэтым заклікаў „прамацаць Еўропу рускім штыком": „Варшава лічылася амаль асуджанай на пагібель для Польшчы. Так, прынамсі, лічыў увесь міжнародны друк. Пасля здарыўся пералом..., польскія войскі, падтрыманыя патрыятычным уздымам у Варшаве, адчуваючы сябе ў сваёй краіне, знайшлі падтрымку, знайшлі новую магчымасць ісці наперад" (Полн. собр. соч., т. 41, 1970, с. 321).

Зусім нечакана для Чырвонай Арміі, што стаяла ля сцен Варшавы, здарыўся „цуд над Віслай": 16 жніўня палякі перайшлі ў контрнаступленне і праз некалькі дзён амаль поўнасцю разграмілі тых, хто хацеў зноў загнаць польскі народ у няволю, адкуль ён толькі што вырваўся. Некалькі чырвоных дывізій і конны корпус Г. Гая былі адрэзаны ад астатняга войска, прыціснуты да Усходняй Прусіі і там інтэрнаваны. Астатнія дывізіі з вялікімі стратамі адступалі на ўсход. Уцёк з Беластока на ўсход і Польрэўком. Звестак пра тое, ці спыняўся на гэты раз у Гродне Фелікс Эдмундавіч, няма.

У беларускай літаратуры гэты бясслаўны паход на польскую сталіцу (з крыкамі: „Даёшь Варшаву!") не знайшоў мастацкага адлюстравання. Праўда, у паэме К. Крапівы „Шкірута" ёсць радкі:

З палякамі меў я справу
І ў адным паходзе слаўным
Чуць не ўзяў у іх Варшаву
І чуць Мінска не аддаў ім.

А яшчэ ў трагікамедыі Я. Купалы „Тутэйшыя", у самым яе канцы, пад заслону, калі чырвонаармейскі начальнік патруля арыштоўвае Мікіту Зноска, дык той просіцца напрамілы бог: „Пайду дапамагаць вам забіраць Варшаву, толькі не забірайце мяне!" Тут, па-першае, як дадатковы сродак стварэння трагікамічнага эфекту абыгрываюцца два значэнні дзеяслова „забіраць" („захопліваць, заваёўваць" і „арыштоўваць, затрымліваць"). Па-другое, адчуваецца прыхаваны непрыемны для бальшавікоў напамін-намёк на ўсё ж не „забраную" Варшаву, славуты „цуд над Віслай" і, магчыма, дарэмнае непрыняцце імі Зноскавых паслуг наконт польскай сталіцы. Дарэчы, гэта п'еса была забаронена ў 1926 годзе і толькі нядаўна зноў вернута да жыцця.

**Іван Лепешаў,**
**прафесар Гродзенскага універсітэта імя Янкі Купалы,**
**доктар філалагічных навук**

# Сутычка цывілізацый і вайна ў Югаславіі

Пад такім лозунгам у сераду 26 мая ў Цэнтры праваслаўнай культуры ў Беластоку адбылася сустрэча з прафесарам Уладзімірам Паўлючуком і рэдактарам Іліем Марынкавічам. Прафесар гаварыў пра сутычку цывілізацый.

Людзі раней гуртаваліся ў плямёны, пазней у народы, а цяпер у цывілізацыі, стрыжнем якіх з'яўляецца рэлігія. Рэлігіі бываюць эксклюзіўныя, накіраваныя на індывідуальны ператунак, і інклюзіўныя, накіраваныя на ратунак цэлай грамадскасці; да апошніх належаць візантыйская і лацінская рэлігіі, да першых — некаторыя пратэстанцкія. Індывідуальны рэлігійны ўхіл вядзе да дагаджання самому сабе, у тым ліку і накапленню капіталу, перад якім на пэўным этапе паяўляюцца межы нацыянальных дзяржаў. Гістарычныя паводзіны народаў вызначаюць культурныя сістэмы, а ў іх ліку нацыянальныя міфы, напр. у расіян міф ахвяры на алтары нацыі і аўтарытэтаў, у сербаў — міф Косавага Поля, а ў палякаў — міф бунту. Культурныя сістэмы з'яўляюцца перашкодай у запалоненні капіталам свету і таму дыспетчары капіталу зацікаўленыя разлажэннем традыцыйных культур. Адбываецца гэта з дапамогай ідэалогіі свабоды, каб чалавек вызваліўся ад уласных вартасцей, бо тады яго лёгка перафармаваць у спажыўца. Асаблівы наступ ідзе тут на этыку. Напрыклад, правы чалавека і дэмакратыя гэта не традыцыйныя правы чалавека і дэмакратыя, а толькі тое, што выдумае Клінтан. Найбольш агрэсіўнай і неталерантнай з'яўляецца ў гэтым плане цывілізацыя Захаду, бо Расія выбыла з ігры вялікіх і сёння ёй адведзена ролю фігавага лістка прывідаў. Прафесар выказаўся крытычна пра насаджванне заходніх звычаяў у наш быт, напр., парламентарызм ва Усходняй Еўропе назваў ён сіндромам культу карлікаў. Паказаў ён тут на сённяшнюю Украіну, якая намагаецца трымацца заходніх палітычных стандартаў і валавы прадукт якой скараціўся да трэці таго, які быў у савецкай Украіне. Мяркую, што паводле прафесара Украіна *rosła w siłę a ludzie żyli dostatniej* у трыццатыя гады, калі там палітычная сістэма мала нагадвала заходнюю. Пахваліў ён затое палітычную сістэму Лукашэнкі, паясняючы, што рэферэндумы з'яўляюцца самай высокай праявай дэмакратыі. Мне таксама падабаецца гэтыя рэферэндумы, бо там *дэмас* ідэальна паінфармаваны як мае галасаваць, каб не атрымаць воўчага білета.

Ілія Марынкавіч, сербскі карэспандэнт у Варшаве, гаварыў пра вайну ў Югаславіі, інфармуючы прысутных пра тое, пра што не згадваюць нашы СМІ. Напрыклад прэзідэнт Босніі і Герцагавіны заўважыў, што хаця заходнія дзяржавы называюць яго краіну суверэннай, аднак не пытаюць пра дазвол на пралёт сваёй ваеннай авіяцыі над яе тэрыторыяй. За два месяцы на Сербію было скінута ў дзесяць разоў больш бомб, чым на Хірасіму. Пашкоджаны каля пяцідзесяці манастыроў; туркі, якія панавалі стагоддзямі, манастыроў не чапалі. Каля дваццаці тысяч косаўскіх албанцаў уцякло ў Сербію. Косаўскія албанскія тэрарысты забілі каля тысячы чалавек, а ў іх ліку трыста пяцьдзесят албанцаў. Захад зыходзіць з прынцыпу: чаго няма ў медыях, тое не існуе. Таму наводзіць асаблівую цэнзуру: разбурае рэдакцыі і забівае працуючых там журналістаў. Спадар Марынкавіч сказаў, што яшчэ можа глядзець толькі спадарожнікавае сербскае тэлебачанне, але і яго ўласнікі спутнікаў намераны адключыць. Разбураюцца электрастанцыі, што аднімае жыхарам Югаславіі адзіную крыніцу энергіі, бо газу ў тамашніх дамах няма... І яшчэ адна цікавінка: не ўсе сербы праваслаўныя — каля чвэрці жыхароў Бялграда складаюць каталікі.

Прысутныя цікавіліся пазіцыяй Расіі. Аказваецца, што маскоўская прэса ў большасці непрыхільна адносіцца да сербаў. Даволі частыя там выказванні, што доля сербаў маскоўскім элітам абыякавая, важнае затое, што заходнія банкі іх не пакінулі.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Усходнееўрапейскі семінар у Ольштыне

21 мая ў альштынскім замку пад патранажам вармінска-мазурскага ваяводы адбыўся семінар на тэму нацыянальнай спецыфікі Вармії і Мазураў. У семінары прынялі ўдзел прадстаўнікі Беларусі, Украіны, Літвы і Калінінградскай вобласці Расійскай Федэрацыі, а таксама рэгіянальныя дзеячы, мастакі і пісьменнікі. Ганаровым госцем быў віцэ-міністр культуры і мастацтва Рэчы Паспалітай Яцэк Вайс. Семінар суарганізавалі Цэнтр навуковых даследаванняў імя Войцеха Кентшынскага, Таварыства супрацоўніцтва народаў Усходняй Еўропы „Zbliżenie" і Грамадска-культурнае таварыства „Pojezierze".

**Андрэй Гаўрылюк**

# Выява падсвядомасці

Калісьці, недзе пятнаццаць гадоў таму, былі грошы, а не было тавару і ў Лодзь ездзілася за пакупкамі. А сёння — крыху наадварот і ў Лодзь няма з чым ехаць... Але нагода надарылася, бо 27 мая ў Гарадской галерэі мастацтва ў Лодзі адбыўся вернісаж карцін Міколы Давідзюка. Па дарозе правёў я некалькі гадзін у сталіцы; прайшоўся па Варшаве пяшком.

Горад забіты самаходамі. На Маршалкоўскай і вялікі, і малы гандаль: на фольгавым мяшочку кінутым на тратуар малады чалавек прапануе дзве пары штаноў, на кардонцы з-пад бананаў дзяўчына прапануе тры пары ботаў. У бетонным жолабе вуліцы мучацца дрэвы, некалькіх ужо няма... Пры вуліцы Гаворка крыху зелені. Раптам чую магутны гул і бачу хмару пылу, перад якою ідзе *замяталін* з бензакампрэсарам на плячах і выдувае ім пыл з тратуара на газон; можна было б ціха мятлою, але каб такое ў сталіцы!.. А пяцьдзесят метраў далей другі бок таго ж тратуара замятаюць аднак мятлою, двaіх: адзін трымае шуфель, а другі вымятае пясок, але не ў шуфель толькі на газон. І яшчэ з тае траўкі змятае далей, каб чысцей было. Нездарма Валэнса пяшчотна называў сталіцу Варшаўкаю.

Заходжу да Яна Заброцкага. Гаспадар славянскага культурнага цэнтра расказвае мне, што калісь, на дзяржаўнай пасадзе, працаваў дзеля таго, каб раз у месяц атрымаць зарплату. А сёння грошы недзе на трэцім ці чацвёртым месцы, а найважнейшае — радасць наведвальнікаў ад сустрэчы з родным словам!

У вялікім горадзе спакою няма, але людзі лезуць у яго бетонныя клеткі быццам мухі на мёд. А мяне Варшава хутка ўтамляе. І ў Лодзь еxаў я змучаны Варшавай, быццам пажылы чалавек жыццём.

У галерэю прыйшоў я паўгадзіны перад адкрыццём выстаўкі карцін нашага земляка. Седзячы ў фае хваляваўся я, ці пазнаю мастака пасля трыццаці шасці гадоў ад часу, калі закончыў ён гайнаўскі белліцэй. Ці не паявіцца перада мною экстравагантны сябра багемы, шукальнік артыстычнага натхнення *w stroju niedbałym*, мо з доўгімі валасамі, а мо і зусім без? А ён нічагуткі не змяніўся, нават маршчыны ніводнае не нажыў. Сціплы, акуратны, мабыць стрыманымі паводзінамі не размантачыў сваіх сіл на падмогу старэнню...

На выстаўцы былі паказаны карціны, якія Мікола Давідзюк намаляваў за апошнія чатыры гады. Чытач наш знаёмы з графічнымі эскізамі мастака, якія да нядаўна паяўляліся на нашай літаратурнай старонцы; былі гэта галоўным чынам чалавечыя сілуэты. У карцінах апошняга часу мастак абмежаваўся толькі да твару. Твары на яго палотнах выяўляюць шматгран-



*Мікола ДАВІДЗЮК: Сустрэча з Людвікам, 1997.*

насць чалавечай псіхікі, складанасць і супярэчлівасць яе састаўных. У карцінах паказаны многія профілі твару, бо ў людской псіхіцы суіснуюць засакрэчаныя асабовасці. Ці ж не бывае так, што паводзінамі нашымі намагаюцца кіраваць некалькі ўнутраных галасоў, якія падказваюць нам розныя рашэнні; часам яны так раздзяруць чалавека, што губляе ён усю сваю самаўпэўненасць, ахопліваe яго меланхолія і нават дэпрэсія. Сённяшняя перанасычанасць усялякай інфармацыяй так раструшчвае чалавечую псіхіку, што траціць ён арыентацыю ў празмерна ўскладненым свеце.

Я даўжэй спыніўся перад карцінай п.з. „Чворца". У твары на ёй мастак памясціў некалькі намаляваных рашучымі колерамі геаметрычных фігур. Заінтрыгаваў мяне асабліва загаловак. Як у тварах профілі, так у гэтым словазбудаванні перамешаны з сабою словы „Творца" і пашыранае да чатырох „Тройца". А чацвёртым да Тройцы тут чалавек, які не ахоплівае ўсёй складанасці свету, але ствараe **свой** вобраз, спрошчаны, абмежаваны да некалькіх выразных афарбовак. Ці ж не партрэт тут нашага тутэйшага, „простага чалавека", які ў сваёй свядомасці мае замацаваныя выразныя стэрэатыпы? Мы ж даcканала ведаем, што нашаму люду светлыя „свае", напр. Лукашэнка, а цёмныя чужыя, напр. згаданы раней Валэнса.

Мікола Давідзюк стрыманы і ў прыватным жыцці, і ў падыходзе да сваёй творчасці. Ён тэмы для сваіх карцін падбірае звонку, дэталёва прыглядаючыся навакольнаму свету. Выхадзец з малой беларускай вёскі ў вялікі польскі горад выдатна заглядае ў тыя жыццёвыя шчыліны, у якія не пранікае зрок радавога жыхара любога пасялення.

* * *

Едучы на вернісаж, я крыху пабойваўся, як радавы жыхар Беластока, ці распазнаю я тыя рэаліі, якія прадстаўць перада мною карціны мастака, ці не буду глядзець на іх так, як Панфілюкоў Хрушчоў. Спатрэбіўся мне нейкі штуршок у глыбейшыя пласты свядомасці. Некаторыя нашы паэты згадвалі, што рэфлексіі і паглыбленае бачанне свету прыходзілі да іх у шпіталі, да знямоглых хваробай. Вырашыў і я пакарыстацца іх вопытам, толькі дзеля знямогі задумаў не хварэць, а звычайна стаміцца. Таму загадзя і валачыўся па варшаўскіх бетонных жолабах...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Манаграфія Рыбалаўскага прыхода

Айцец Рыгор Сасна і Дарафей Фіёнік вядомыя ў нас як аўтары кніг пра мінулае праваслаўных прыходаў на Беласточчыне. Іх пяру належаць „Гісторыя Царквы ў Бельску-Падляшскім" (1995) і „Орля на Падляшшы. Гісторыя Царквы, горада і наваколля" (1997). Ва ўступе да гэтага апошняга выдання Юры Каліна заўважыў, што такія кніжкі ліквідуюць прабелы гістарычных даследаванняў, якія найчасцей не заўважаюць штодзённага жыцця звычайных людзей — міжвольных сведак вялікай палітычнай гісторыі, і жадаў аўтарам „сілы і энтузіязму, каб на працягу бліжэйшых гадоў апісаць мінулае ўсіх важнейшых населеных пунктаў на ўсходняй Беласточчыне". І вось праз чарговыя два гады з'явілася трэцяя кніга а. Рыгора Сасны і Дарафея Фіёніка, гэтым разам прысвечаная Рыбалаўскаму прыходу*. Кніга „Прыход Рыбалы" ў прынцыпе пабудаваная па ўзору папярэдніх выданняў, а новым элементам з'яўляецца ўвядзенне раздзела пра народную культуру.

У першым раздзеле даецца апісанне мінулага прыхода з дагістарычных часоў да сённяшняга дня — у прамым сэнсе гэтага слова, бо гісторыю прыхода аўтары даводзяць да 30 красавіка г.г. У гэты дзень візіт у прыход нанёс мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава, а нагодай для гэтай урачыстай падзеі былі 60-годдзе з дня нараджэння і 30-годдзе навуковай дзейнасці настаяцеля прыхода а. Рыгора Сасны (пра што аўтары з-за сціпласці не згадваюць) ды 120-годдзе асвячэння царквы св.св. Кузьмы і Дзям'яна. Нам прыемна адзначыць, што аўтары згадваюць таксама пра XVII Сустрэчы „Зоркі", якія адбыліся напярэдадні святкаванняў і падчас якіх дзеткі размалявалі крыж. Гэты крыж стаіць цяпер каля прыхадскога храма.

У другім раздзеле даецца апісанне васьмі храмаў, якія знаходзяцца на тэрыторыі прыхода, у трэцім — прыводзяцца біяграфічныя весткі пра святароў, псаломшчыкаў і царкоўных старастаў.

Апісваючы мінулае аўтары не абышлі маўчаннем народнай культуры і гэтай тэме прысвяцілі чацвёрты раздзел кнігі. У ім апісваецца не толькі традыцыйная земляробчая і сямейная абраднасць, але згадваецца таксама рэдкі ўжо феномен існавання сучасных форм народнай творчасці ў вясковым асяроддзі. Прыкладам гэтаму з'яўляецца Мікалай Ігнацюк з Рыбалаў — паэт, спявак, ініцыятар заснавання калектыву „Хлопцы-рыбалоўцы" і Анна Раманюк з Паўлаў — народная паэтка, удзельніца самадзейнага тэатральнага руху.

Кнігу завяршае „Дадатак", у якім прыводзяцца два дакументы з царкоўнага архіва (дазвол на капліцу ад 1753 г. і вытрымка з візітацыі царквы ад 1804 г.), спіс загінуўшых падчас другой сусветнай вайны прыхаджан, лік хрышчэнняў, шлюбаў і сконаў у 1751-1998 гг., а таксама запісаная мясцовай збіральніцай фальклору казка.

Кніга багата ілюстраваная — у ёй на 210 старонках змешчана 70, пераважна унікальных, здымкаў.

Кніжка „Парафія Рыбалы" не абмяжоўваецца толькі да асвятлення царкоўнага жыцця ў мінулым, але паказвае таксама палітычныя і грамадскія падзеі, дзякуючы чаму нашы веды пра гісторыю ўсходняй Беласточчыны становяцца больш змястоўнымі.

**Віталь ЛУБА**

*o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Parafia Ryboły*, wydawca: Białoruskie Towarzystwo Historyczne, Bielsk Podlaski — Ryboły — Białystok 1999.

# Гульні з Алінай

Аліна Ваўранюк, маладая, хоць ужо вопытная, а таксама і наватарская настаўніца беларускай мовы, з дапамогай Беларускага саюза ў РП выдала зборнік „Беларускія гульні"*. На амаль ста старонках „сэрфаваць" можа не толькі настаўнік, які хоча так навучыць сваіх падапечных, каб было цікава, весела і дружна на ўроку, бо ў час нявымушанай гульні ў светлыя галовы малечаў залятае найбольш ведаў, развіваюцца ў іх эмацыянальныя адносіны да сябе саміх, сяброў і роднага. Як зазначае аўтарка, гульні не толькі ўзбагачаюць слоўнік дзіцяці, вучаць новым тэрмінам і паняццям, але і развіваюць яго фізічна.

Гульні ў кніжцы падзелены тэматычна. У пяці раздзелах — народныя гульні і карагоды. А. Ваўранюк спачатку прапануе настаўніку апісаць абрад, расказаць, з якой парой года ён звязаны (напр. „першы сноп", „талакуха", „бярозка", „каза", „канапелька", „купалінка", „русалачкі"). У шостым раздзеле — больш сучасныя гульні. У сёмым — прыдатныя дашкольнікам пальчыкавыя гульні (напр. „Кацяня": *Хто ў доміку жыве?* (кладзем кулачок на далонь). *І так раненька ўстае?* (варушым кулачком) *Малачко са сподка п'е?* (указальным пальцам гладзім далонь). *Любіць пеначкі лізаць, можа хвосцікам махаць* (махаем мезенцам), *Лапкай умываецца?* (вялікім пальцам гладзім кулачок). *Як ён называецца? Кацяня!* (паказваем кацяня: сярэдні і безымянны пальцы прыціскаем сагнутым вялікім пальцам да далоні, мезенец і ўказальны палец выцягаем уверх). Самае важнае, што ў забавах удзел прымаюць дзеці гуртом, калектыўна, павязаны яны з іх інтэлектуальным і фізічным развіццём, а сама кніжка — неацэнны дапаможнік настаўніку ў садку і ў школе, мае сэнс таксама мець яе як настольную кнігу і бацькам ці дзеду з бабай.

Для Беларускага саюза, як выдаўца — гэта першая кніга-дапаможнік (публікацыя фінансавана Міністэрствам адукацыі РП), які спатрэбіцца ў навучанні роднай мове ў садках і пачатковых школах Беласточчыны. Як зазначае старшыня БС Яўген Вапа, у сувязі з асветнай рэформай у нашай краіне БС чакае прапаноў чарговых выдавецкіх праектаў у галіне навучання беларускай мове, гісторыі і геаграфіі.

**Міра ЛУКША**

*Аліна Ваўранюк, *Беларускія гульні*, Беласток 1998.



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Сталіца нашых сэрц

Я ад нядаўна спяваю ў калектыве „Лісічкі". Мы рашылі прыняць удзел у XVIII Міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы. Пачалі падрыхтоўку да гэтага фестывалю. Атрымалі былі таксама запрашэнне ў Мінск на IV Фестываль праваслаўных песнапенняў. Мы вельмі ўцешыліся і рашылі туды паехаць.

У Мінск мы выехалі 21 красавіка ў $14^{30}$, а даехалі туды каля $21^{00}$ гадзіны. Едучы мы аглядалі сталіцу не толькі Беларусі, але і нашых сэрц. Мы захапляліся яе выглядам. Жылі ў гасцініцы. Назаўтра прыйшла да нас спадарыня Тацццяна (за ўсе дні нашай пабыўкі яна знаёміла нас з горадам). Таго ж самага дня мы пайшлі ў Сабор Святога Духа, там знаходзіцца ікона Мінскай Божай Маці. Яна прыплыла ў Мінск ракой Свіслаччу. Кажуць, гэту ікону напісаў апостал Лука. У Саборы ёсць яшчэ мошчы праведнай Сафіі, мы да іх прыкладіся. Пасля мы пайшлі найстарэйшай вуліцай Мінска — Нямігай, што знаходзіцца ў цэнтры горада. Там жа і стары горад. Галоўная вуліца Мінска — праспект Францішка Скарыны, пабудаваны ў 50-х гадах. Побач знаходзіцца стадыён „Дынама". Ва ўсіх амаль месцах мы былі вымушаны ездзіць перапоўненымі тралейбусамі або метро.


Мінск. Царква Марыі Магдаліны.

У Мінску мы хадзілі па цудоўных парках. Адным з іх — парк імя Янкі Купалы. Там таксама Музей літаратуры Янкі Купалы, куды, на жаль, мы не зайшлі. Бачылі затое помнік Якубу Коласу. Яго імем названа плошча, якая была пабудавана ў 1882 годзе.

Вечарам распачаўся фестываль. Яго ганаровым госцем быў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, патрыяршы экзарх усёй Беларусі.

У пятніцу мы пабывалі ў царкве Марыі Магдаліны, а таксама каля помніка Перамогі. Перад ім гарыць вечны агонь. Чатыры вянкі каля гэтага помніка сімвалізуюць чатыры франты, на якіх не толькі беларускія салдаты змагаліся за свабоду народа. Вечарам мы сустрэліся ў Доме ветэранаў з польскімі дзяцьмі, якія жывуць у Беларусі. Яны вывучаюць польскую мову. Мы абмяняліся адрасамі і цяпер вядзем перапіску. Ад іх мы даведаліся, што на беларускай мове яны вывучаюць толькі гісторыю і беларускую мову. Усё іншае вывучаюць па-руску. Гэта вельмі сумная вестка.

Мінск называюць студэнцкім цэнтрам. У сталіцы Беларусі 15 вышэйшых навучальных установ.

У суботу мы выступілі на фестывалі. Мушу прызнацца, што быў гэта наш поспех. Пасля было вогнішча ля Дома міласэрнасці, а пасля вогнішча... зялёная ноч! Нікога аднак не ўдалося нам пашмараваць зубной пастай — пацярпелі толькі клямкі.

Нядзеля была апошнім днём нашай пабыўкі ў Беларусі. У першую гадавіну пабудовы царквы ў памяць ахвяр Чарнобыля мы заспявалі ў прыходзе ў гонар іконы Божай Маці Усіх Тужлівых Радасць. Там праходзіў апошні дзень фестывалю. Калі абвясцілі вынікі, мы даведаліся, што „Лісічкі" занялі III месца і гэта, зразумела, нас вельмі ўсцешыла. Па ўручэнні дыпломаў і ўзнагарод мы заспявалі яшчэ раз, а пасля селі ў аўтобус і развіталіся з Мінскам і Беларуссю. Мінск мне вельмі спадабаўся. Я хацела б наведаць яшчэ не раз гэты горад.

**Патрыцыя Кос,**
**VIII кл. ПШ у Ласінцы**

## Спектакль

У сераду мы аглядалі спектакль, які падрыхтавалі дзеці з Ягуштова пад кіраўніцтвам Дарафея Фіёніка. Гэты спектакль мне вельмі падабаўся. Напачатку выйшаў хлопец, які іграў Івана, любімага Мані, галоўнай гераіні спектакля. Ён расказаў публіцы аб сваім жыцці і запрасіў паглядзець гісторыю яго кахання. Паднеслася заслона і пачаўся спектакль. Мне вельмі падабалася ў спектаклі багацце вопратак і посуду з мінулага. У спектаклі было таксама многа песень-вяснянак. Аглядаючы спектакль можна было пазнаёміцца са шлюбнымі абрадамі ў мінулым.

Думаю, што спектакль падабаўся не толькі мне, але і многім маім сябрам.

**Оля Багуцкая,**
**V кл. ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**


Тэатральная група „Ягуштова". Фота Ганны Кандрацюк

## Вершы Віктара Шведа

### Растлумачыў

Спыніўся раптам над ракой
Нейкі няўпэўнены прахожы.
Маршрут кантраляваў тут свой,
Ці на ўласцівай ён дарозе.

Ён хлопца запытаў: — Сынок,
куды зайду мастом я гэтым?
— Дык на другі, вядома, бок,
Няма ніякага сакрэту.

### Малы курэц

— Ты смаркач, а з папяросай
Цягнешся ўжо да курцоў?!
Відавочна сваім лёсам
Не цікавіш ты бацькоў.

Дык я пра тваю крамолу
Настаўнікам раскажу.
— Не турбуйцеся, я ў школу
Яшчэ цалкам не хаджу.

## Польска-беларуская крыжаванка № 24

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу 3 тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 📖 | Gros | Wzniesienie | ▼ | Doker | Stójka |
| Grunt | Grzęda ▶ | ▼ | | | ▼ |
| Ładunek ▶ | ▼ | | | | |
| ▶ | | | | 📖 | |
| Rozpacz ▶ | | | | | |
| Park | | 📖 | | 📖 | |
| ▶ | | | | 📖 | |

**Адказ на крыжаванку н-р 20**

Ахова, рамонак, пакарана, мёд, зала, мір, гора, замах.

Драма, анёл, помада, хор, га, зона, мох, вампір, лак, рад.

Узнагароды — аўтаручкі — выйгралі: **Паўліна Савіцкая**, **Каміля Карповіч** і **Уршуля Ляўчук** з Гарадка, **Юстына Гацута** з Трывежы, **Ася Гаўрылюк**, **Пятрусь Янкоўскі** і **Анджэліка Сельвясюк** з Бельска-Падляшскага.

„Зорка" № 24 13.06.1999

# Маё хобі

Маім хобі — інфарматыка. Не ведаю адкуль у мяне гэта ўзялося. Можа гэта звязана з тым фактам, што я часта спатыкаюся з тэхнікай, а можа гэта сямейная справа. Сярод маіх сваякоў некалькі асоб займаецца камп'ютэрамі, яны выбралі сабе такую прафесію. Маё хобі заключаецца ў тым, што я люблю слухаць і вывучаць пра байты, працэсары, графічныя карты і г.д. Вучуся бяспечнага псавання і рамонту, знаёмлюся з мовамі праграмавання камп'ютэра як C++, Pascal, Basic. Па натуры я лянівая дзяўчына і не люблю паўтараць некалькі разоў, што два разы два гэта чатыры. Калі мне давядзецца вывучаць новы нумар інфарматычнага часопіса, раблю гэта з вялікай прыемнасцю. Таму мой „навуковы мозг" умяшчае 70 працэнтаў ведаў не здабытых на ўроках матэматыкі ці гісторыі.

Асабістыя інфармацыі маюць уплыў на маіх блізкіх. Напрыклад, дачка маёй цёці мела чацвёрку па інфарматыцы, але калі пабыла ў мяне на карэпетыцыях, чацвёрка памянялася на пяцёрку. Ёсць і другі бок справы. Бацькі не маюць хвіліны спакою і яны мусяць мімавольна даведвацца, што такое RAM, мілісекунда ці мегабайт.

Я ўпэўнена, што інфарматыка — цікавая навука. Я не магла б жыць без камп'ютэра. Сваю навуку спалучаю з іншымі мовамі, магу цудоўна займацца трэніроўкай сваёй памяці.

**Аліна СІРОЦКАЯ,**
**VIII кл. ПШ у Чыжах**



*III клас ПШ у Орлі з настаўніцай Яўгеніяй Тхарэўскай.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Васіль ЖУКОВІЧ**

# Загадкі

Ля дарогі — шарык белы.
Вецер дзьме, а шарык цэлы.
А як дзьмухнуць хлапчукі —
пух ляціць на ўсе бакі.

*(Дзьмухавец)*

* * *

Цвіту ўсё лета я,
жыву звычайна ў жыце.
Нашу хлапечае імя.
Як зваць мяне, скажыце?

*(Васілёк)*

# Чаму леў уцёк з нашай стараны

Ішоў адзін чалавек у лес па дровы, ажно спатыкае льва:

— Які я?

— Ат, — кажа чалавек, — які ты? Спераду, як хорт, а ззаду, як чорт!

— Рубані мяне сякераю ў лоб.

Чалавек рубануў, а леў кажа:

— Прыйдзі праз год на гэта месца.

— Добра, — і пайшоў.

Як ужо год скончыўся, прыходзіць туды той чалавек, ажно леў ляжыць і кажа:

— Ну, паглядзі ў мяне на ілбе.

Той памацаў.

— А што?

— Шрам, — кажа.

— Ну, — кажа, — то гэта рана загаілася, а тыя словы, што ты на мяне сказаў, не загаіліся. Цяпер я табе не дарую!

— Э, — кажа чалавек, — я тады падхмелены быў, то не знаў, што гавару.

— А які ж гэта хмель? Пакажы мне!

Чалавек пайшоў, купіў некалькі гарцаў мёду і гарэлкі, уліў у цэбар і прыносіць да льва.

— На, — кажа, — хмелю!

Леў устаў, лізнуў раз.

— А, — кажа, — салодка, добры хмель!

Лізнуў другі раз.

— Не жарт, такі смачны!

За трэцім разам выпіў усё і кажа:

— Прыйдзі заўтра на гэта месца, — і пакаціўся па зямлі.

Тады чалавек узяў нажом яму скуру з ног аж па калені пазадзіраў і пайшоў.

На заўтрашні дзень прыходзіць, аж леў ужо выцверазіўся і кажа на яго:

— Праўду ты казаў, што падхмелены быў і не ведаў, што гаварыў. Я як пакаштаваў хмелю, то як пайшоў па каменнях, па карэннях, то чыста сабе ногі паабдзіраў: пабач! Пайду я ўжо да такога краю, дзе хмелю няма.

Пабег, і з той пары ў нас іх няма.

# Святло сярэднявечча і адраджэння

*(эсэ)*

Літаратура — гісторыя чалавечага сэрца, форма адлюстравання свету ва ўсіх яго колерах, мастацкі вобраз выяўлены пры дапамозе слова:

„Яшчэ ў дні старыя,
у век наш лучынны,
аб горадзе Полацку
слава ішла. Друкар наш
выдатны Францішак Скарына,
што зоры рассыпаў па
роднай краіне, крыштальныя
словы навукі — святла".

Словы з паэмы „Беларусь" Петруся Броўкі нагадваюць пачатак шляху культурнага развіцця народа. Беларуская пісьменнасць — бясконцая рака. Плыве, мяняецца, розная ў сярэднявеччы і рэнесансе. На землях старажытнага Полацка, Турава, Смаленска, Бярэсця трывае больш за тысячу гадоў. Сярэднявечны чалавек жыў паводле схематычнага аскетызму. Адраджэнне прадстаўляе чалавека разумнага, надзеленага вольнаю воляй, жадаючага спазнаць навакольны свет.

У кожнай эпосе мяняецца жыццё, мяняецца і літаратура. Летапісы, рыцарскія аповесці, старыя хронікі, песні трубадураў, жыцці святых ды адвечная палеміка паміж чалавекам і Богам, дабром і грэхам, народзінамі і смерцю. Залаты гуманізм — плынь грамадска-філасофскай думкі, якая сцвярджала самакаштоўнасць чалавека, яго права на свабоднае развіццё і выяўленне сваіх здольнасцяў. Тытаны па сіле духа і страсці, усебаковая адукаванасць, вучонасць процістаіць шэраму, сярэднявечнаму містыцызму.

Зманю, калі напішу, што толькі адраджэнне цаніла вучонасць. Сярэднявечная эпоха — гэта літаратурная маланка ў службе Богу. Істотная аднак розніца: вобраз чалавека — першы — падпарадкаваны рэлігіі, другі — вольнадумны.

Бацька Еўфрасінні Полацкай сам здзіўляўся яе мудрасцю. Па ўсіх гарадах разышлася слава пра яе вучонасць, вялікія здольнасці, красу — гаворыць „Жыціе Еўфрасінні Полацкай". Гэта першая беларуская жанчына, якая аддала жыццё на службу Богу (пайшла ў манастыр маючы 12 гадоў).

Пра сярэднявечную адукаванасць бліскуча сведчыць постаць Кірылы Тураўскага. З дзяцінства марыў ён, каб служыць Богу. Яго мара здзейснілася. Стаўшы манахам загадаў замураваць сябе ў вежы, каб ніхто не мяшаў яму маліцца і перапісваць кнігі. Таленавітага Кірылу Тураўскага звалі другім Залатавустам (першым быў прапаведнік Іаан з Візантыі).

Героі сярэднявечных твораў пазбаўлены недахопаў, цэлую сваю любоў, адукаванасць прысвячалі Богу, шчыра веруючы ў збаўленне. Кірыла Тураўскі ў сваіх „Словах" усюды бачыў Божае тварэнне і міласэрнасць:

„Сёння ўсе дабрагалосныя
птушкі...
весяляцца...
і, сваю кожная співаючы
песню, славяць Бога
нямоўчнымі галасамі".

Адраджэнская мадэль жыцця дазваляла людзям „carpe diem" (скарыстаць дзень), жыць сённяшнім, бескалапотным выяўленнем сябе. Больш вартасныя людзі хацелі служыць не толькі свайму „я", але і народу (і бедным, і багатым). І так „засланяючыся" сонцам і месяцам глядзіць на нас першы беларускі друкар — Францішак Скарына. Малады асветнік ведаў, што магутнасць дзяржавы не залежыць толькі ад князёў, але і ад асветы яе жыхароў.

Скарына здабываў адукацыю ў Кракаве і ў Італіі, дзе амаль не чулі пра Беларусь, якую лічылі казачнай краінай. У некаторых тагачасных кніжках сур'ёзна сцвярджаецца, што на берагах Дзвіны, Дняпра і Нёмана зоркі свецяць ноччу і днём, па вуліцах гарадоў гуляюць белыя мядзведзі, людзі маюць па адным воку пасярод ілба. Падуанскія вучоныя, мабыць, здзівіліся пабачыўшы двое вачэй Францішка Скарыны, а калі адказаў на ўсе пытанні на лацінскай мове, выклікаў захапленне. Няўдачнікам, што спадзяваюцца на лёс, заўсёды складана дайсці да чаго-небудзь. Аб гэтым даведаўся і наш друкар на адным экзамене. У залу прынеслі дзве пасудзіны — чырвоную і зялёную ды два шарыкі гэтых жа колераў. Прафесары галасавалі наступным чынам: калі чырвоны шарык пападзе ў чырвоную пасудзіну, экзамен лічыўся паспяховым, зялёны абазначаў правал. Скарыну пашчасціла ў жыцці, дабіўся навуковых званняў: бакалаўра, доктара медыцынскіх навук і філасофіі.

У сярэднявеччы стрыжнём культуры была Біблія. Пра яе думаў таксама ў рэнесансе Францішак Скарына. Намерам яго было прысвоіць гэтую каштоўнасць суродзічам, перакладаючы яе на беларускую мову. Маючы на ўвазе патрыятычны абавязак перад сваім народам, асветнік узбагачаў пераклады прадмовамі, каментарыямі, пасляслоўямі, тлумачэннем незразумелых слоў, ілюстрацыямі.

Герб гуманіста — сонца і месяц у час зацьмення, перамога святла над цемрай, ведаў на невуцтвам, адраджэння над смерцю. Гэтым ідэалам полацкі эрудыт прысвяціў усё жыццё.

Іншыя эпохі адыходзяць ад асветных ідэалаў, беручы за аснову само жыццё з яго шчасцем і няшчасцем. Пісьменнікі часта абіралі за сваіх герояў магутных волатаў — як у „Песні пра зубра" Міколы Гусоўскага. Зубр — гэта сімвал краіны, якой ніхто не зломіць. Так, як ахінутую белчырвона-белым сцягам Пагоню.

**Анна САДОЎСКАЯ**

# Выстаўка ў бібліятэцы

У Гарадской публічнай бібліятэцы ў Гайнаўцы можна паглядзець працы маладой мастачкі Ілёны Кандрацюк. Вучаніца восьмага класа Падставовай школы н-р 2 у Гайнаўцы жывапісам цікавіцца ўжо з трэцяга класа, калі яе працу паказалі на Раённым мастацкім конкурсе ў Гайнаўцы, а купіла яе пасля галерэя, якая існавала пры Таварыстве сяброў Белавежскай пушчы. У час мінулагодніх канікулаў Ілёна Кандрацюк заняла першае месца ў конкурсе з нагоды 500-годдзя Гарадка.

— У Гарадку ўзнагароджаны былі дзве мае працы выкананыя алоўкам: з выявай старой гарадоцкай царквы і самых старых крыжоў на мясцовым могільніку, — кажа Ілёна Кандрацюк. — Аб конкурсе даведаліся мы па радыё. Паехалі мы тады ў Гарадок пабачыць цікавейшыя месцы. Аказалася, што гісторыя Гарадка неразлучна звязаная з праваслаўем.

У пачатку 1999 года Ілёна Кандрацюк атрымала вылучэнне на VI Агульнапольскім мастацка-літаратурным конкурсе „Прырода ў маёй аколіцы". Сярод прац на выстаўцы пераважаюць партрэты і нацюрморты. Вучаніца заяўляе, што цікавіцца таксама і краявідамі.

— Не ведаю яшчэ ў якім канкрэтным напрамку спецыялізавацца. Свае працы найчасцей выконваю алоўкам, але карыстаюся таксама акварэлямі і адну працу зрабіла алейнымі, — гаворыць Ілёна. — Зараз адыходжу ад рэалістычных прац, мае партрэты не паказваюць канкрэтных людзей, але мае ўяўленні аб іх. Больш цікавіць мяне абстрактнасць.

— Відаць талент у юнай мастачкі. Нацюрморт аснаваны ў адпаведных колерах. Цікавыя таксама і партрэты, якія адыходзяць ад рэалістычнага адлюстравання людзей, — заяўляе мастак Віктар Кабац, які прыйшоў на выстаўку.

Звычайным наведвальнікам бібліятэкі больш падабаліся аднак рэалістычныя працы, якія паказваюць прыгажосць навакольнага свету, а не часта незразумелыя ўяўленні маладога чалавека.

**Аляксей Мароз**

# Сустрэча з Янінай Ахойскай



*Яніна Ахойская (з букетам) ля беластоцкай ратушы.*

У залах беластоцкай ратушы 21 мая 1999 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё фотавыстаўкі аб працы Польскай гуманітарнай акцыі, а можна было б гэты вечар назваць проста сустрэчай з прыехаўшай у Беласток Янінай Ахойскай, вядомай арганізатаркай гэтай акцыі.

Першы канвой з дапамогай накіраваўся 26 снежня 1992 года ў Сараева. Фотавыстаўка была наладжана на пяцігоддзе працы Польскай гуманітарнай акцыі ў 1997 годзе.

Ад таго часу арганізатары ездзяць з гэтай выстаўкай па ўсёй Польшчы. Яе назву ўзялі з паэзіі Віславы Шымборскай: „Ktoś wyjdzie im naprzeciw..."

„Нам хацелася паказаць не тое, што мы зрабілі, а што зрабілі вы, — сказала Яніна Ахойская. — Усё радзей чуваць: няхай „яны" зробяць! Усё больш мы робім самі".

Ад 1992 года Польская гуманітарная акцыя вазіла дары ў Боснію, Югаславію, Казахстан, Афганістан, Чэчэнію, на Украіну і ў Літву. Калі глядзіш на вялікія здымкі, развешаныя на стэндах з каментарыямі, міжволі чалавека агортвае ўзрушэнне. На гэтых здымках відаць чаканне хлопца, слёзы старой, радасць ад сустрэчы.

— Нягледзячы на тое, што ў Казахстане пражывае каля 100 тысяч палякаў, мы не выдзялялі толькі іх, — сказала Яніна Ахойская. — Яны ж там жывуць у рускім асяроддзі, дык і суседзі ў іх — рускія. Мы прывозілі дары шпіталям і дзіцячым дамам, якім у цяжкія моманты найгорш.

У часе вайны ў Босніі мы не дапамагалі толькі аднаму баку, — дадае Яніна Ахойская. — Мы хацелі быць аб'ектыўнымі і не займаць пазіцыю адной дзяржавы ў ваенным канфлікце. Яшчэ да сёння мы дапамагаем адбудоўваць пачатковую школу на лініі паміж мусульманска-харвацкай федэрацыяй і сербскай рэспублікай. Да сёння 2 600 дзяцей вучацца там у паграбах, крамах, прыватных хатах — дзе папала.

Дапамога дзецям — прыярытэтная справа Яніны Ахойскай. У даны момант яны дапамагаюць 11 школам у Літве, у былым Сувальскім ваяводстве дакормліваюць дзяцей у 40 школах. Вядома, дапамагаюць найбяднейшым.

Добрае сэрца ва ўсім гэтым вельмі важнае, — пераконвае Яніна Ахойская, — але дапамогу трэба ўмець арганізаваць. Каб людзі хаця не абразіліся, бо з гэтым па-рознаму бывае.

Мяне цікавіла, чаму Польская гуманітарная акцыя не ахапіла Беларусь. Мы прабавалі, сказала мне Яніна Ахойская, але Беларусь гэта адзіная краіна, якая за дары патрабуе пошліны. Было так і на Украіне, але там мы неяк дагаварыліся. Маем надзею, што і з Беларуссю з часам удасца дамовіцца. Праз Царкву вазіць дары лягчэй, так як гэта і робіцца ў Беластоку.

**Ада Чачуга**

*Фота Марка Далецкага*

# З альбома Яўгена Аніські

[1 ☞ працяг]

мінаў. Пра гэту выдатную постаць расказалі гісторыкі: Дарафей Фіёнік, Вячаслаў Харужы, паэт Віктар Швед, вучань Юрка Манаховіч і тадышняя дырэктарка школы Марыя Манаховіч. Спадарыня Манаховіч, спецыяльна з нагоды выстаўкі, напісала верш „Успаміны аб паважаным чалавеку Яўгену Аніську".

Няма ўжо яго сярод нас,
Ніколі з намі ён не будзе.
Но памяць аб ім будзе жыць
І не забудуць яго людзі.

Успомняць часта і не раз
Тыя, што блізка з ім бывалі.
Успомняць вучні — ўзрослыя цяпер,
Настаўнікі, што разам працавалі.

Адданым роднай справе быў,
Часу і сіл не шкадаваў,
Стараўся ў згодзе жыць з людзьмі,
Слабейшым ён дапамагаў.

І апекуном быў у сяле,
Не пакідаў у бядзе нікога,
Да патрабуючых людзей
Не лёгкая вяла дарога.

Часта наведваў тых людзей,
Што дапамогі патрабавалі.
Дапамагаў хворым, слабым,
За тое яго шанавалі.

Ахвярна ў школе працаваў,
Грамадскай працы быў адданы,
Вучняў у шахматы іграць
Здымкі рабіць вучыў таксама.



*Марыя Манаховіч.*

У маёй сям'і ў мяне
Найлепшыя жывуць успаміны.
З'яднала моцна нас жыццё,
Разам пражытыя хвіліны.

*Ягуштова, 31 мая 1999 г.*

Выстаўка „З альбома Яўгена Аніські" будзе працаваць да канца чэрвеня 1999 года.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

PS. Добрым пачаткам для вывучэння гісторыі Малой Айчыны было б прысваенне імя Яўгена Аніські новай гімназіі, якая пачне працаваць у Ягуштове ад верасня г.г.

# Адпачываць у цішыні

Пра дзейнасць асяродка адпачынку „Рыбакоўка" ў Рыбаках Нарваўскай гміны спытаў я яго загадчыка Збігнева Рабэцкага.

— Цяпер у нас бівачны сезон, — сказаў ён. — Школьная моладзь, галоўным чынам з Беластока і Гайнаўкі, прыязджае на два дні. Можа яна карыстацца спартыўнымі пляцоўкамі для баскетбола, валейбола і футбола, святліцай, прыборамі для гульні ў настольны тэніс, а вечары праводзіць пры вогнішчы. Дзеці прывозяць уласныя харчы, а мы толькі стаўляем у іх распараджэнне палявую кухню.

У чэрвені і верасні ў нас можна арганізаваць г.зв. зялёную школу. Можа сюды прыехаць цэлы клас і тут праводзіць урокі. Да гэтай пары ніхто аднак не карыстаўся гэтай магчымасцю. У мінулым годзе збіраліся да нас вучні з Бельскай-Падляшскай, але нічога не атрымалася. Настаўнікаў насцярожвае павышаная адказнасць і другія нявыгады ад прабывання па-за сваёй мясцовасцю.

З 1 ліпеня пачынаецца ў нас адпачынковы сезон. Адпачываюць асобныя сем'і і зарганізаваныя групы; у мінулым годзе Фонд крэсавай музыкі з Любліна ладзіў у нас курс — былі выкладчыкі з Вільні, Мінска, Кіева і Масквы. Індывідуальныя адпачынкі прыязджаюць да нас галоўным чынам са Шлёнска, Варшавы, Познані і Чанстаховы.

Гасцей кватаруем у доміках з двухі трохмеснымі пакоямі, прыбіральняй і ўмывальнікам з цёплай і халоднай вадою. У ліпені і жніўні працуе сталовая, адкрыты буфет, які прапануе халодныя безалкагольныя напоі і марозіва. **Няма ў нас алкаголю і дыскатэкаў!** Цішыня тут, чутны толькі спеў птушак і звіненне камароў. На рэчцы Нарве ёсць вызначае месца для купання, а ў Лядскай пушчы грыбы і ягады. Для аматараў больш актыўнага адпачынку маем байдаркі.

Кругласутачнае харчаванне каштуе ў нас 21 злот. За начлег лічым па 14 злотаў ад асобы (бівачныя начлежнікі плацяць па 7 злотаў, але не атрымоўваюць пасцелі). За начлег на палатачным полі лічым па 4 злоты ад чалавека.

Ахвотныя адпачываць у нас могуць браніраваць месцы ў Асяродку спорту і рэкрэацыі ў Гайнаўцы (тэл. 085-6822776) або непасрэдна ў Рыбаках (тэл. 085-6816061).

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Каб не змаўкалі іх песні

— Што ж гэта вас не было сёлета на Фестывалі беларускай песні? — спыталася я ў Валянціны Дарашкевіч, кіруючай калектывам з Меляшкоў.

— А ведаеце, як гэта бывае: хтось захварэў, у некага была жалоба, і так не ўдалося сабрацца, — адказала яна.



*Злева: Валянціна Дарашкевіч, Ніна Лавіцкая і Галена Дарашкевіч.*

— Але ж у апошнія гады вашага калектыву там наогул не відаць... — заўважыла я.

— У нас адна бяда: няма „другога голасу”. Во каб яго прыдбаць! — Валянціна Дарашкевіч, падбадзёрыўшыся, пахвалілася: — А можа 19 чэрвеня паедзем у Нараўку, мы ж атрымалі запрашэнне. Мо ўгавару сяброўак...

Сапраўды, 19 чэрвеня ў Нараўцы мае адбыцца ўжо дваццаць восьмае (у новым, Падляшскім ваяводстве — першае) мерапрыемства з цыкла прэзентацый народных традыцый. Меляшкоўскі самабытны калектыў са сваімі рэгіянальнымі песнямі надта падыходзіў бы да нараўчанскіх „прэзентацый”, і добра было б, каб кабеткі мабілізаваліся, крыху паспявалі, а пасля выступілі там, і паказалі сваё майстэрства ды харакство народнай песні.

Калі калектыў стварыўся ў 1973 годзе, спявала ў ім восем чалавек. Цяпер засталіся толькі тры жанчыны: Валянціна Дарашкевіч, Галена Дарашкевіч і Ніна Лавіцкая. І спяваюць яны цяпер значна менш. Хаця... яшчэ пару гадоў таму ўсе спяваючыя тады жанчыны, а было іх пяцёра, атрымалі значок „Заслужаны дзеяч культуры”.

Гучна святкавалі ў меляшкоўскай святліцы дваццацігоддзе калектыву. Святкаванне наладзіла Гарадоцкая гмінная ўправа. Я асабіста напісала энтузіястычны тэкст для буклета пра Меляшкі, пра іх кранаючыя сэрца песні з водарам навакольных лугоў і грыбных бароў. І не прыходзіла тады ў галаву думка, што калектыў можа замоўкнуць.

— Мы неўзабаве хочам святкаваць юбілей нашага дваццацігоддзя, — гаворыць Валянціна Дарашкевіч.

І я веру, што жанчыны гэта зробяць. Толькі каб не выйшла так, што калектыў будзе святкаваць усяго гістарычную дату яго стварэння. Ён мусіць быць дзейсны, творчы.

Акампанементу нам не трэба, сцвердзіла кіраўнічка калектыву. Мы ж спяваем свае песні, а хто там іх спяваў з акампанементам... Але вось каб крыху маладых сіл!

Дык во і Сцяпан Копа, вядомы на Беласточчыне музыка і музыказнаўца, які ўжо трыццаць два гады працуе з гарадоцкім калектывам, кажа, што тут трэба большай актыўнасці. Я спецыяльна скантактавалася з ім, каб запытацца, што мяркуе ён аб сітуацыі ў меляшкоўскім калектыве.

Ім проста неабходны прынамсі другі голас. Народныя ж песні спяваюцца на галасы: і трэці, і чацвёрты. А ў іх усё першыя галасы. І з гэтага вынікае іхняе незадавальненне, сказаў Сцяпан Копа. Члены калектыву павінны добра разгледзецца і ў вёсцы, і на меляшкоўскім хутары. Каб прыцягнуць крыху малодшых і я б ахвотна пад'ехаў, каб у нечым дапамагчы.

Ад ідэі далучэння меляшкоўскіх спявачак да гарадоцкага калектыву мы ўжо пісалі раней. Сцяпан Копа адносіцца да яе даволі скептычна. Па-першае, меляшкоўскім жанчынам цяжка было б дастасавацца да спосабу выступлення „Расспяванага Гарадка”, дзе шмат руху, пластычных элементаў. А, па-другое, рэпетыцыі ж павінны праводзіцца сістэматычна, а на гэта меляшкоўцы, якім да Гарадка некалькі кіламетраў, не маюць умоў.

Усё ж такі, здаецца, прыхільны культуры гарадоцкі войт і ў гэтай справе нешта мог бы прыдумаць.

Патрэбная тут аднак ініцыятыва. Каб не асесці, бабанькі! Песні вашы нам вельмі патрэбныя.

**Ада Чачуга**
*Фота аўтара*

# З ватай па фэстах




*Пётр Лубінскі за працай.*

Царкоўныя фэсты звычайна прыцягваюць многа народу. Такую нагоду скарыстоўваюць дробныя гандляры, якія на прыцаркоўных пляцоўках расстаўляюць ларкі з цацкамі, сувенірамі і смакоццямі. 28 красавіка г.г. у Орлі ля царквы з'явіўся прадаўшчык цукровай ваты. 53-гадовы Пётр Лубінскі ўжо шэсць гадоў займаецца продажам гэтага ласунку.

— Мне неабходны вялікія зборышчы людзей, асабліва такія, на якіх прысутнічае многа дзяцей і моладзі. Я ведаю ўсе праваслаўныя і каталіцкія фэсты, — расказвае прадавец цукровай ваты. — Часта пра шматлюдныя мерапрыемствы даведваюся з газет. Апрача таго маю сваё месца ў Бельску на рынку. Там прадаю яшчэ каляровыя шары і семкі. У Бельску працуе двух прадаўшчыкоў ваты, а ў Гайнаўцы — адзін.

Цукровая вата — гэта сам цукар, — расказвае не спыняючы працы Пётр Лубінскі. — Ведаюць яе здаўна, толькі раней была іншая тэхналогія вытворчасці. Калісь цукар падаграваўся не газам, але дэнатуратам. І барабан прыводзіўся ў рух ручкай. Як паўстае вата? Сыплецца цукар у машынку пасярэдзіне барабана. Знізу ідзе трубка з гарэючым газам і падагравае цукар у барабане, які прыводзіцца ў рух акумулятарным рухавіком. У тэмпературы 100°C цукар расплаўляецца, а цэнтрабежная сіла цераз адтуліны ў галоўцы машынкі выкідвае вадкі цукар у барабан. Там у тэмпературы 30°C вадкасць застывае ў форме ваты, а я толькі намотваю яе на палачку. Вось і ўвесь тэхналагічны працэс.

Палачкі трэба прывозіць аж з-пад Бельска-Бялай. Там ёсць фірма, якая выпускае палачкі для ваты, шашлыкоў, ледзянцоў. Мае кліенты — гэта пераважна дзеці, хаця і старэйшыя таксама трапляюцца. Здараецца, што бацькі або дзяды гавораць дзецям: „О, ты яшчэ такога не еў. Паспрабуй” і заказваюць порцыю ваты. Малая порцыя каштуе ў мяне 1 залатоўку, вялікая — 2 злоты. Можна ў мяне заказаць таксама супервялікую порцыю за 3 зл.

Заняцца продажам цукровай ваты прымусіла мяне фінансавае становішча. Пенсія ў мяне малая і з тройкай дзяцей выжыць за яе цяжка. Такім чынам летам дарабляю да мізэрнай пенсіі. Для цукровай ваты неабходнае прыгожае надвор'е, бо калі ідзе дождж, тады вата плача — цукар убірае ў сябе вільгаць з паветра і з ваты скапваюць кроплі. Апрача надвор'я патрэбны таксама кліенты, — кажа прадавец, намотваючы на палачку чарговую порцыю салодкай ваты.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*



*Арлянская моладзь з супервялікай порцыяй цукровай ваты.*

# Тры душы на канцы свету

Вёска, калі так можна назваць гэтае паселішча, Кардон прысела непадалёк правага берага ракі Нараўкі, якая непадалёк уліваецца ў Нарву. Тут, у двух дамах, жыве тры душы: дзве пажылыя ўдавы і ўдадае сын-халасцяк. Напроці, каля левага берага, прытуліліся да Лядскай пушчы дзве вёскі падобнай велічыні: Парослае і Граматнае. З Кардона можна туды праехаць мостам, калі так можна яшчэ назваць гэтае гідратэхнічнае збудаванне. Мост гэты вымашчаны дошкамі так змардаванымі, што здаецца яны з бяссілля вось-вось і праваляцца, а вада, як і кожная стыхія, прыме іх і спачатку радасна панясе здабычу, а пасля стоміцца і, як дзіця зношаную цацку, пакіне дзесь край плыні.

А дарогі? Ёсць... Адна ў Лешукі і далей у шырокі свет: у Нараўку, Гайнаўку і Беласток, а другая, праз Лядскую пушчу, у Нарву. Дарогі гэтыя, як у камунізме — паводле патрэбнасцей: асфальт тут патрэбны не надта... Жанчынам — бо вясковыя, а нестарому яшчэ старому кавалеру — бо калі пойдзе ў людзі, дык не хваліцца глянц-абуткам, толькі пагаварыць пра жыццё-быццё. І не часта гэта бывае, бо толькі тады, калі грош нейкі ёсць, які выпадае ў нас укласці на тыя працэнты, ад якіх не сто рублёў, а сто сяброў.

Вёска вітае мае вушы крыштальным птушыным спевам, а вочы — сельскагаспадарчай тэхнікай. Заходжу ў першую хату. Турбую гаспадыню, якая была прылегла крыху адпачыць. Доля яе — незайздросная. Муж яе нядаўна перасек той кардон, з-за якога няма вяртання. І ёй самой нездаровіцца, нервуецца. Крыху ў дактароў бывала, кожны раз у іншага; і папраўы няма. Яшчэ ў Нарву думае падацца — там жанчына замаўляе. А дактарам жа грошы трэба, а дачка ў Ляўкове будуецца, а сын у Беластоку працу мае, то мусіць тае працы трымацца... І не хочацца дзецям згадваць пра сваю хваробу — у іх жа свае турботы. А хатняга сына ўжо трэці дзень няма і ва ўяўленні маці не практыкуе ён камасутравых эвалюцый з нейкай сакавітай прыгажуняй пад пышным балдахінам, а хутчэй за ўсё зазубрывае пазіцыю каloды пад нейкім спарахнелым плотам; мо ўжо і халодны... І не прамовіш яму нічога, бо слухаць не хоча. І прагарае без пары матчына душа, а за ёю і цела.

У хаце водаправодныя і сцёкавыя трубы — выгада! Калісь, да вайны, у Кардоне больш гаспадароў было: Валодзя, Сяргей, Лукаш. А цяпер у яшчэ адной хаце гаспадыня ўжо трыццаць гадоў удавою. І ў яе было трое дзяцей — адны дочкі, якія па свеце раз'ехаліся.

Яшчэ не забываюць дзеці і ўнукі апошніх жыхарак Кардона. І раз у тыдзень, у чацвер, самаход з прадуктамі прыязджае. Пакуль мост трымаецца і дарогі самасеем не зараслі...

Колькі ўжо гадоў гаворыцца пра надыход канца свету...

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Ваенная і мірная служба

Ужо пад канец 1945 года, — піша прафесар Казімеж Урбан, — стала вядомым, што дзяржаўныя ўлады намерваюцца поўнасцю і пад прымусам высяліць украінскае і лэмкаўскае насельніцтва з межаў Рэчы Паспалітай, у прыватнасці з Падкарпацця. 25 верасня гэтага ж года староста Навасанчаўскага павета загадаў грамадзянам украінскай і русінскай нацыянальнасцей у паўмесячны тэрмін пакінуць прыгранічную тэрыторыю. У наступным месяцы даў ён пісьмовы загад праваслаўным святарам. Аднак пагалоўнае перасяленне пачалося ў 1947 г., пасля забойства генерала Караля Сяірчэўскага. Тадышнія ўлады свае жорсткія дзеянні тлумачылі неабходнасцю канчатковай расправы з падпольнай Украінскай паўстанчай арміяй. За тры месяцы 1947 г. войска, міліцыя і бяспека перасялілі больш 100 тысяч украінцаў на захад і поўнач Польшчы. У таварныя вагоны грузілі тады не толькі прыхільнікаў УПА, але і ветэранаў Войска Польскага, а нават членаў ППР.



*Злева: Мікалай Рыбачук і Мікалай Бобер з Міклашоў (восень 1946 г.).*

* * *

Тысячы салдат, у тым ліку жыхары Падляшша, праходзілі ў той час вайсковую службу на поўдні Польшчы і прымалі ўдзел у тадышніх падзеях. Адным з іх быў Мікалай РЫБАЧУК — сёння 74-гадовы жахар Міклашоў Арлянскай гміны.

— У войска прызвалі мяне ў жніўні 1946 г. Спачатку сабралі нас, пад сто чалавек, у Бельску і трымалі тыдзень. Потым прыехалі два капралы і пагрузілі нас, у пераважнай большасці праваслаўных, на адкрытую платформу ды завезлі ў Седльцы. Там мы пераселіся ў вагоны і цераз Люблін, Жэшаў даехалі ў ваколіцы Санака. Потым ішлі пешшу, перапраўляліся цераз Сан па нейкіх кладках, бо моста не было. Сан — рака шырокая і быстрацечная.

Абучалі нас два-тры тыдні. Потым прынялі ад нас прысягу і адразу паслалі ў горы. У Санаку стаяла 8 Дрэздэнская дывізія пяхоты. Наша бельская група служыла ў 32 Будзішынскім стралковым палку. Памятаю падпалкоўніка Цімуру і шэфа штаба Слівіцкага. Гэты апошні — здаравенны мужчына, два аўтаматы браў і разам з намі хадзіў на акцыі. Потым частку салдат адправілі ў полк, а нас паслалі ў аўстрыйскія казармы, дзе арганізавалі нам падафіцэрскую школу. Казармы былі разбураныя і заняткі найчасцей адбываліся пад адкрытым небам, у полі, у лесе, у стралковым ланцугу. Часта заставаліся мы нанач па-за казармамі, спалі дзе папала, раз нават на нейкім вясковым запушчаным могільніку.

УПА арганізавала засады на нашых жаўнераў. Здараліся бандэраўцы (бо так мы называлі паўстанцаў) у нямецкай форме. Аднаго такога мы злавілі. Нас пасылалі ачышчаць тэрыторыю. Потым прывезлі з Польшчы некалькі тысяч войска. І выстрайваліся мы ў стралковы ланцуг на некалькі кіламетраў і ішлі цераз лес. Бывала, ідзем два-тры дні і нічога не знаходзім, хаця сустракаем цёплыя яшчэ вогнішчы.

Многа жаўнераў тады загінула. 28 сакавіка 1947 г. за Балігродам забілі ген. Сяірчэўскага. Генерал ехаў на інспекцыю і меў заехаць у нашу часць. Мы ў казармах рыхталіся сустракаць яго, прывезлі аркестр. А тут у дванаццаць трывога. Пасадзілі нас у машыны і праз дзве гадзіны былі мы на месцы забойства. Паставілі нас з боку рэчкі. Паміж дарогай і рэчкай цягнуўся хрыбет гары, на якім з паўночнага боку ляжаў снег. З гары, з адлегласці сарака метраў бачылі мы як на машыне везлі труп генерала прыкрыты ялінай.

На другі дзень, кіламетр ад Балігрода, нашы жаўнеры зноў трапілі ў засаду. Па гэтай жа дарозе машына везла абмундзіраванне на змену. Жаўнеры ішлі спераду, каб праверыць дарогу. Здавалася, што ўсё ў парадку, але калі машына наблізілася да паварота, застракацелі кулямёты. З 28 жаўнераў у жывых засталося толькі двое. Бандэраўцы не толькі забівалі, але і забіралі ў трупаў адзенне і боты.

Да сакавіка перасяленняў не было, але ўжо ў маі сталі высяляць мірнае насельніцтва з Леска, Балігрода. Зганялі тады тры-чатыры вёскі ў адно месца і кожныя суткі фармавалі і адпраўлялі чатыры эшалоны. Вёскам, якія абвінавачваліся ў дапамозе УПА, давалі дзве гадзіны на падрыхтоўку да выезду, затым грузілі на машыны і вывозілі. Можна было забіраць з сабой інвентар, толькі будынкі заставаліся пустыя. У некаторых вёсках былі прыгожыя дамы, але былі таксама курныя хаты.

Вагоны з перасяленцамі канваіравала войска. Мы даставалі дзве буханкі хлеба і кансервы, а перасяленцы — вядро кавы і кус жоўтага цукру. Мне прыйшлося двойчы канваіраваць перасяленцаў.

У Бяшчадах служыў я з верасня 1946 г. да ліпеня 1947 г., але ў напасрэднай сутычцы з УПА не прымаў удзелу. Пасля частку нашага падраздзялення перавялі ў Скернявіцы пад Варшавай, дзе служыў я да верасня 1948 г. Потым яшчэ двойчы прызывалі мяне на абучэнне. У 1954 г. тры месяцы трымалі мяне ў Элку на скарочаных курсах палітычных афіцэраў запасу. Было ў мяне званне капрала, але, відаць, на палітрука не быў я здатны. Другі раз узялі мяне ў 1968 г., калі была трывога. Некалькі тыдняў абучалі нас, а потым усіх паслалі капаць меліярацыйныя равы каля Алецка.

* * *

1 красавіка 1987 г. Мікалай Рыбачук атрымаў медаль „За ўдзел у барацьбе за народную ўладу". „Аб тым, што гэта была акцыя «Вісла» ніхто з жаўнераў тады і не ведаў, — кажа ён. — Я пра гэта даведаўся зусім нядаўна з газет".

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

*Рэпрадукцыя аўтара*

# Вызвалялі нас

*(працяг;*
*пачатак у папярэднім нумары)*

**Расказ Валянціны САЕВІЧ са Старога Ляўкова, народжанай у 1928 годзе.**

**У немцаў**

А мяне вывезлі дзень раней, 4 чэрвеня; было мне тады чатырнаццаць гадоў. Немцы бралі ад шаснаццаці, а я мусіла ў чатырнаццаць. Мела я дома „прыяцельку" — мачаху. Я аднойчы падслухала яе размову з бацькам, калі яна прыгразіла, што калі я далей дома астануся, дык даложыць немцам, што я партызанам у Лядское нашу есці; а за гэта ад немцаў можна было чакаць толькі аднаго — расстрэлу. Яна добра ведала нямецкую мову, бо сама была з Новай Волі і да вайны служыла ў фабрыкантаў у Міхалове, а сын яе быў шафёрам у амтскамісара, а нявестка працавала *перагаворшчыцай*; уся ўлада была, можна сказаць, у іх руках. То я цэлую ноч не спала, бо ж у чатырнаццаць гадоў сама жыць хочацца! І я пайшла ў Нараўку па *аўсвайс*, сказала пісару, што я з дванаццаць шостага года, а ён не правяраў і выставіў мне той *аўсвайс* быццам мне шаснаццаць гадоў; чатырнаццацігадовых немцы не бралі. Ну і солтыс, Шпалэк, вызначыў мяне. У Свінарої ішла я пяшком, толькі возам мой сундучок ехаў, а далей павезлі нас у Гайнаўку *машынкай*. Там трымалі нас тры дні. Забралі ў чацвер, у пятніцу завялі ў лазню, там мы памыліся, а ў суботу раніцай павезлі ў Бельск і ў нядзелю рана пагрузілі ў поезд і ў панядзелак рана былі мы ўжо ў Тыльзіце ў *арбайтсамце*. Прыходзілі туды немцы і забіралі нас. Забралі ўжо ўсіх, асталіся толькі я і Мікіткава Надзя, што замужам у Бачынскіх. Прыйшла такая пані ў капелюшы, паглядзела на нас, пасядзела, пачытала кніжку і забрала нас абедзве. Везла поездам да мястэчка такога як Нараўка, Шылен называлася, а там прыехаў брычкаю старэнькі такі немец, забраў Надзю, а я асталася са сваёй немкай; яна маладая была, некалькі толькі гадоў за мяне старэйшая. Паехалі мы далей аўтобусам, а далей два кіламетры ішлі пяшком. А мой сундучок нявыгадны несці, бо такі шырокі, то і немка памагала мне яго несці; цяпер я не раз падумаю: то ж хапіла б у якіясь лахі ўвязаць, то на сколькі лягчэй было б... Але ж тады ўсё мусіла быць у сундучку... Прыйшлі мы ў вёску Тыльзенталь зусім пад вечар. А на другі дзень пачалася нармальная работа — чатыры каровы даіць. То мне што: пятнаццаць мінут і падаіла ўсе; толькі адна карова цвёрдая была, але яе гаспадыня праз год недзе збыла.

Быў там француз, мо з год перада мною быў, але ён словы перакручваў: нібы гаварыў па-нямецку, а выходзіла інакш. Гаспадыня смяялася, гаварыла, што першы год ён мяне вучыў, а пасля то ўжо я яго вучыла. Гаварыць то я навучылася хутка, маладая была, а да таго ж з хаты ведала што такое *Brot, Salz, Wasser*, бо мачаха добра панямецку ўмела; а рэшту здагадвалася... Ну і прыбірала я: сем пакояў было, трэба было кожную раніцу іх замесці, два разы ў тыдзень выцерці мокраю сціркай. Першы раз я падумала: як вышарую добра падлогу, то немка мяне пахваліць. Узяла я шчотку і шарую, а гаспадыня прыйшла — добрая была баба — і забрала ад мяне тую шчотку і паказвае, што шчоткаю не трэба, толькі вадою, бо сціраецца падлога; падлога была тоўстая, але старая, у ёй усе сукі ўжо тырчалі — так схадзілася! А дрэва яны бераглі, там ніводзін кавалак не мог змарнавацца. Да печаў дрэва было з кустоў толькі на распалку, а палілі брыкетамі.

Павывозілі нас яшчэ далёка да прыходу рускіх; сказалі, што хто не выедзе, таму расстрэл. Вывезлі нас за Бранева; здалі жывёлу, толькі двое коней пакінулі і паехалі фурманкаю з будай як у цыганоў. Француз кіраваў конямі, дзве немкі сядзелі ў будзе, а я ехала побач на веласіпедзе. Паеду пад вечар наперад, заеду да немцаў, што яшчэ там жылі, папрашу малака, або і сама пайду выдаю карову, і пакуль немкі прыедуць, я ўжо малочны суп ім навару. Ехалі доўга, бо дарога была забітая і войскам, і цывільнымі. Завезлі нас у нейкую вёску, там далі кватэру ў мясцовых; я нічога не разумела з іх гаворкі. Пабыла я там мо з месяц, акурат да Каляд, бо немцы такіх як я, што не мелі тады ніякага занятку, бралі капаць акопы. Спярша капалі недалёка Бранева, а пасля адвезлі пад Барташыцы, то яшчэ там капалі. І там я ўцякла.

А як я ўцякла з акопаў? Там ужо быў блізка фронт, чатыры кіламетры, і вечарам прыгналі рускіх палонных. Мы жылі ў такім хлеўчыку, а іх загналі ў клуню на сена. Я кажу да адной дзяўчыны: ідзем, папросім немцаў, можа дазволяць пагаварыць з тымі палоннымі; то ж цікава. Мы папрасілі, а немцы кажуць:

— Гаварыце, *Bitte schön* (калі ласка).

То мы з імі доўга пагаварылі, пару гадзін. Пытаем, што будзе з намі, калі рускія прыйдуць.

— А что вы делаете?

— Акопы капаем.

— Так вас расстреляют русские.

Нас ахапіў страх і я з ёю раніцай уцяклі, схаваліся ў сена. У той час спаткала я нямецкага салдата, які служыў быў у Ляўкове ў войску. Ён быў чэхам і спытаў мяне, адкуль я. І выяснілася, што ён ведаў маіх бацькоў! У саракавым годзе прыязджала да нас цётка з Масквы і пакінула насценны гадзіннік, *кукушку*. Яна папсавалася, а той немец ладзіў гадзіннікі. І ён сказаў мне: як вернешся дадому, то скажы там, што я гадзіннік у вас ладзіў. І так пасля было!

Мы занадта не хаваліся, бо ніхто там вельмі не спраўджаў, але і ўхіляліся, каб у вочы не кідацца. Раз то амаль на той свет не адправіліся праз маю сяброўку. Яна курыла і аднойчы вечарам вылезла з сена і папрасіла ў немца закурыць. А людзі ж усялякія: хтосьці далажыў пра нас, што нейкія падазроныя. А раніцай немец выклікае нас і расшпіляе кабуру з пісталетам і пытае нас, што мы за адны. То мы не сказалі, што акопы капаем, толькі нешта другое — і што мы вельмі галодныя. То ён схаваў пісталет і кліча нас:

— *Kommen Sie mit* (ідзіце са мною).

Завёў ён нас у хату, дзе яны былі, загадаў салдатам накарміць нас. А я гавару сяброўцы: цяпер то нас напэўна рускія расстраляюць, калі тут нас з немцамі засцігнуць; ты ідзі першай, а я яшчэ астануся. Яна выйшла, а немец пытае, куды. Я адказваю, што і я зараз за ёю пайду, бо мы доўга не елі і страўнікі ў нас разбаленіся; і ён мне паверыў. Праз паўгадзіны выйшла і я і ўжо мы туды не вярталіся, толькі ходу! Залезлі мы на вышкі, зашыліся глыбока ў сена... Немцы яшчэ з вечара гергеталі, гергеталі...

*(заканчэнне будзе)*

**Запісаў Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Незвычайныя боты

Пяць месяцаў мінула ад уваходу медыцынскай рэформы, а мы ўсе на яе глядзім праз каляровыя акуляры. І хоць прэм'ер-міністр Ежы Бузэк захвальваў яе пад неба, зараз бачым, якую „дабрадзейнасць" атрымала грамадства. На ніве засеянай міністрам Бальцаровічам вырастаюць такія „кветкі", якія звычайнаму чалавеку і ў сне не прысніліся б.

Даўней інваліды карысталіся артапедычнымі прыладамі бясплатна. За ўсё трэба плаціць. Ды якія ж грошы!

Яшчэ нядаўна чыгуначным інвалідам належаліся раз у год бясплатныя артапедычныя боты. Хапіла зайсці да лекара-спецыяліста і запоўніць заказ адобраны дырэктарам амбулаторыі на месцы. Зараз таксама спецыяліст запаўняе заказ, аднак, каб яго адобрыць, трэба з'ездзіць у паліклініку МУС за подпісам дырэктара. І тут праблема. У Беластоку з вуліцы Сталэчнай на Цеплу аўтобусы не ездзяць. Інваліду даводзіцца „кусочак" дарогі прайсці пехатою. У паліклініцы таксама трэба падымацца на другі паверх на сваіх хворых нагах.

І другая справа: кошт ботаў. Зараз кліент плаціць 30% вартасці. У маім выпадку трэба было заплаціць 96 зл., значыцца без ільготаў я вымушаны быў бы заплаціць 288 зл. (палову месячнай пенсіі). І каб гэтыя боты былі хоць „незвычайнымі". Для іх выканання трэба крышачку больш матэрыялу для ўкладкі. І ўсё. З простага рахунка атрымоўваецца парадокс: калі звычайныя боты каштуюць 30-40 зл., „незвычайныя" — 288 зл.

Калі я намагаўся даведацца, чаму такая высокая цана, кіраўнік майстэрні запытаў: „Няўжо гэта дорага?" А пасля дадаў: „Такая цана запісана ў мінстэрскім цэнніку".

**Уладзімір Сідарук**

# Прыемнае з карысным

Лішнія кілаграмы ў чалавека з'яўляюцца прычынай многіх хвароб. Лекары згодна рэкамендуюць пазбывацца іх. Няма аднак аднаго рэцэпта, як гэтую мэту дасягнуць. Вядома толькі, што чалавеку неабходны рух і спорт.

Маем усякія віды сторту, але, і гэта цікава, навукова даказана, што нават тыя віды спорту, якія да руху вялікага дачынення не маюць — брыдж, шахматы — таксама спрычыняюцца скідванню лішніх у чалавека кілаграмаў.

Я сам залічаюся да „пухкіх" людзей, а скіданне гэтых непатрэбных кілаграмаў — штодзённы мой клопат. Пакрысе мне гэта ўдаецца. Вось, на працягу мінулага лета (ад красавіка да кастрычніка) удалося мне пахудзець на 30 кілаграмаў. Уплыў на гэта мела штодзённая гонка веласіпедам па наваколлі ды... збіранне грыбоў у лесе. Мой від спорту аказаўся, як бачыце, і паспяховым, і прыемным. Таму заахвочваю ўсіх скарыстаць лета, якое набліжаецца, дзеля спалучэння прыемных заняткаў з карысным уплывам на наша здароўе.

**(ус)**

# Па прыгоды ў бібліятэку

Гмінная публічная бібліятэка (ГПБ) у Дубінах (Гайнаўская гміна) мае 14-тысячны кнігазбор і 175 чытачоў. Працуюць таксама бібліятэчныя пункты ў Барысаўцы (вядзе яго Аляксандр Іванюк), Васількове (Альжбета Каролька), Махнатым (Ірэна Семянюк) і ў Старым Беразове (Мікалай Яноўскі). Два апошнія з іх адкрылі ў маі гэтага года ў тамашніх вясковых святліцах. Дзейнічае яшчэ школьная бібліятэка, падпарадкаваная ГПБ, у Арэшкаве (загадвае ёю настаўніца Валянціна Валкавыцкая). У мінулым годзе ГПБ купіла 180 новых кніжак.

Кіраўнічка бібліятэкі Раіса Кот арганізоўвае шматлікія чытальніцкія, дэкламатарскія ды пластычныя конкурсы, а таксама літаратурныя віктарыны і вечарыны казак для дзяцей. У чэрвені ў бібліятэцы ў Дубінах адбудзецца дэкламатарскі конкурс пад загалоўкам „Лета ў паэзіі і ў песні".

Са старэйшых найбольш чытаюць: Вольга Ярмоц, Рыгор Шарэйка, Сяргей Койла, Юрый Койла і Мар'я Яноўская, а з моладзі: Сільвія Горбач, Тамаш Ярмоц, Юстына Койла і Эва Кот.

**(гай)**

# Сумую і не сумую

**Адгалоскі**

Дзядзька Захар у 21-ым н-ры „Нівы" піша, што па камуне ён сумуе, бо: (1) лякарствы былі бясплатнымі, (2) ніхто не плаціў за бальніцу, (3) бясплатна будавалі нам фабрыкі, гуты, школы, бальніцы.

Я па камуне сумую таму, што быў у той час малады, лякарстваў не купляў, пра бальніцу не думаў, фабрык і гутаў не патрабаваў. Верыў, што ўжо-ўжо будзе лепш, яшчэ толькі год. Між мною і жыллёвым кааператывам была фармальная дамова, што кватэру я атрымаю праз тры гады, а атрымаў яе ледзь праз восем — ашуканстваў прытым было толькі, колькі было і кватэр у г.зв. *спулдзельні*. Хто не працаваў у г.зв. вядучых сацыялістычных фабрыках і ўстановах, той шанцаў на кватэру ніякіх не меў. Адным словам — трэба было мець адпаведныя падвязкі, каб штонебудзь раздабыць: пачынаючы ад кніжкі, халадзільніка, сціральнай машыны, а канчаючы на талерках і ручніках. Пазней да ўсяго гэтага дайшлі яшчэ талоны — г.зв. *карткі*.

Не сумую па камуне таму, што немалую частку сваёй маладосці я патраціў стоячы на прыпынках ды чакаючы на г.зв. сродкі публічнага транспарту. Праедзе табун аўтобусаў, а пасля праз гадзіну нічога. На хамаватасць вадзіцеляў не было ніякага лякарства (ні дарэмнага, ні за грошы). Рабочы клас упраўляў краінай, а як упраўляў гэтак жа і працаваў. Нічога, што чалавек семнаццаць гадоў вучыўся ў школах рознага ўзроўню, многа ведаў і разумеў, а шахцёр або суднабудаўнічы і так меў зарплату ў тры разы большую за вучонага, не ўлічваючы іхніх дадатковых прывілеяў. Гэта была гістарычная справядлівасць — хто супраць яе бунтаваўся, таго саджалі па турмах і лічылі ворагам народу. Цяпер жыць цяжка, але і тады не было лёгка. Цяпер я не трачу часу ні ў кіламетравых чэргах, ні на прыпынку — ужо дзеля аднаго гэтага варта было ўвесці дэмакратыю. А па камуне сумаваць ды ўсё нанава і нанава яе пераджоўваць — няварта, бо яна не вернецца. А жыць і думаць што далей — варта і трэба. Няма і не было нічога ў свеце дармовага — ні цяпер, ні тады.

**Міхась Куптэль**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Сніцца мне, што я іду на ўсход, у бок майго поля. Перада мною лужына. Я яе пераступаю. Гляджу ўперад — суцэльная цемра, хоць вока выкалі. Азіраюся назад — за мною відна, сонца свеціць, бышцам на захадзе. Усё ж іду наперад. Даходжу амаль да свайго поля, гляджу: а там столькі святла, бліскаў, усё пераліваецца ў колерах.

**Яўген**

Ой, Яўгенка ты Яўгенка! Ну, і задаў жа ты мне загадку! Цемра і святло. Лужына і цудоўныя колеры. Але пачнем ад поля.

Поле сніць — значыцца, у тваёй гаспадарцы будзе поспех. Ты ідзеш да гэтага поспеху не зусім лёгка. Перад табою стаіць лужына, якая гаварыла б, што вакол цябе ходзяць нейкія непраўдзівыя чуткі, плёткі. Ты на іх не звяртаеш увагі. Сам бачыш: спакойна пераступаеш тую лужыну і ідзеш далей.

І наперадзе, бачыш, цёмна, хоць вока выкалі. Але ж вось азірнуўся ты назад і ўбачыў, што за табою відна, ды сонца свеціць як бы на захадзе. Можа тое заходняе сонца асветліць цябе сваімі праменнямі. Можа ты атрымаеш нейкую дапамогу ад некага з Захаду, або прынамсі добрую навіну. У кожным разе твая гаспадарка значна палепшыцца. Бачыш жа сам, што ты ішоў і ішоў наперад, пакуль не дайшоў да свайго поля, дзе было поўна святла і ўсё пераліваліся колермі.

**Астрон**



# Да ўвагі бацькоў

У будучым 1999/2000 навучальным годзе ў Пачатковай школе н-р 4 у Беластоку будзе праводзіцца навучанне беларускай мовы на ўзроўні I, II і III класаў. Бацькі, якія жадаюць, каб іхнія дзеці ў гэтым узросце вывучалі беларускую мову могуць запісваць іх у гэтую школу. Адрас школы: **ul. Częstochowska 6a, tel. 742 21 02**. Школа знаходзіцца ў цэнтры Беластока.

Таксама ж у цэнтры знаходзіцца Самаўрадавае прадшколле н-р 14, у якім вядуцца заняткі па беларускай мове ды дадатковыя заняткі ў танцавальна-музычным і тэатральным гуртках. Бацькі могуць запісваць у яго дзяцей у дашкольным узросце. Адрас прадшколля: **Al. Piłsudskiego 20/4, tel. 742 19 05**.

*Беларускае Гістарычнае Таварыства выказвае шчырую падзяку тым, хто 23 мая г.г. прысутнічаў у асьвячэньні надмагільнага помніка д-ру Мікалаю Чарнецкаму ды фінансава дапамог у яго пабудове.*

*Асабліва дзякуем **Міхасю Андрасюку**, які грамадзкім пачынам выканаў надмагільную пліту й **д-ру Мацею Смаршчку** з ЗША, які ахвяраваў на пабудову помніка й дзейнасьць БГТ 900 даляраў.*

# 10 гадоў БАС

Беларускае Аб'яднаньне Студэнтаў у Польшчы пляную **18 верасьня 1999 г.** правесьці мерапрыемства прысьвечанае 10 гадавіне рэгістрацыі арганізацыі й яе законнай дзейнасьці. Мерапрыемства адбудзецца ў Супрасьлі ў асяродку адпачынку „Пушча".

**Плян мерапрыемства**

$12^{00}$ — $14^{00}$ прыезд, кватарунак і рэгістрацыя ўдзельнікаў;
$14^{30}$ — $17^{30}$ афіцыйная частка, даклады;
$19^{00}$ — ... урачыстая вячэра;
$9^{00}$ — $10^{00}$ сьнеданьне, разьвітаньне.

У артыстычнай частцы прадугледжваюцца канцэрты Сяржука Сокалава-Воюша й Віктара Шалкевіча.

**Кошты**

150 зл. ад асобы (начлег, абед, сьнеданьне);
110 зл. ад асобы (без начлегу, абед, сьнеданьне);
70 зл. ад асобы (без начлегу, без абеду, бяз сьнеданьня).

Свае заявы на ўдзел у мерапрыемстве можна падаваць да **15 жніўня 1999 г.**, уплачваючы адпаведны ўзнос на рахунак БАС — **Białoruskie Zrzeszenie Studentów, PBK S.A. I O/Białystok, Nr 11101154-2857-2700-1-14** — з прыпіскай „10-lecie". Пасьведчаньне ўплаты захаваць.

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1999 r. upływa 5 czerwca 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



*Бульба знаходзіць сабе месца і ў гарадскім жыцці беларуса.* Фота Міры ЛУКШЫ

Фрашкі пра нашых

## Фантамасмедыяфан

Шматслоўны красамоўны фан
Пяе пад неба хвалу іншых спевакоў.
За сказамі, як плотам — ззычайны ён прафан.
Лепш не хваліў бы так ён сябрукоў,

Бо толькі шкоды ім наробіць, бубен,
Стылістыкай сваёй і бальшавіцкім палам.
Крыху тэорыі меў заўсёды ў чубе.
Хай бы ўсё канчаў з аднолькавым запалам.

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## Кароткі курс параноі

**У змаганні да канца**

Прачытаўшы ў „Беларускім Дайджэсце" артыкул Сяргея Ёрша пра Усевалада Родзьку, пачуў душою, што я павінен напісаць аб ім больш падрабязна. Я быў з ім да астатніх дзён. Ён быў галоўным камандзірам нашай дэсантнай групы. Ён меў сваю палітыку: весці барацьбу пры ўсякіх умовах. Немцам гэта не падабалася і яны, замест пасляць нас на тылы ворага, хацелі паслаць на перадавую лінію. Родзька якімсьці спосабам выйшаў з гэтага становішча. І мы адступалі на Захад. У час капітуляцыі мы з Родзькам знаходзіліся ў Чэхаславакіі. З усіх бакоў была паніка, немцы ішлі ў палон, а мы не кінулі зброю. Пайшлі ў лес, дзе савецкія самалёты пачалі кідаць на нас бомбы. Але ніхто не быў забіты. Мы пераадзеліся ў цывільную вопратку і паехалі ў Польшчу, каб перабрацца ў Белавежскую пушчу. Па дарозе Усевалад пазнаёміўся з маладой жанчынай. Спыніліся ў Беластоку. Нам далі працу паблізу горада. У Белавежскай пушчы пачалася вайна Савецкай Арміі з польскімі партызанамі. Памятаю, як я і Усевалад выйшлі на верхавіну гары і бачылі, як савецкія самалёты бамбілі партызанаў у лесе. Родзька часта хадзіў да той жанчыны, хацеў праз яе навесці сувязь з польскай партызанкай. Аднаго вечара ён кажа: „Пайду да жанчыны". Гэта быў астатні вечар, калі я яго бачыў *(з друку)*.

Нявысветлена: з якой гары патрыёты назіралі бамбаванне Белавежжа? Калі Родзька пазнаёміўся з Лупашкам? Ці часам нашы героі не прабіраліся ў атрад „Бурага"? Во, нагледзеліся б!

Між дужкамі: відаць, тактыка барацьбы пры ўсякіх умовах і на жапочым фронце неразумная.

З жалем!

**Сідар МАКАЦЁР**

Факс сябравіцкага паэта Галавасцюка

## Герой

Каціласа слава
за Нёман,
за Віслу
пра ўдары Родзькаў
дэсантны батальён.
Быў Родзька ў Варшаве,
бо такі меў гонар.
Тактыкам вялікім
у Маравіі слыў.
Не кланяўся кулям,
ішоў насустрач смерці,
у Белавежскай пушчы
прагнуў злегчы ён.
Рускія пілоты
адцялі дарогу,
разбамбілі Пушчу.
У аблогу ўзялі.
Куды было дзецца?
Як прабіць дарогу,
у запаветну мару
як здзейсніць прарыў?
Успомніў Родзька польку,
маладую „дрольку",
якую ўключыў быў
у стратэгічны план.
На гары высокай
размясцілі штаб свой.
Родзька, Еўропа
на цябе глядзіць!
Зашумела рэха
у Бел-высока-стоку,
праводзіла Родзьку
у апошні бой.
Коцяцца з гары той
з Родзькам яго словы,
а сябар згарнае
іх у сваю далонь:
— Скажы Еўропе,
што палёг на ж...
А рэха агучвае:
— „Дролькі" маладой!

Гуляла, гуляла,
дарог не губляла
малаецка слава.
Бой!
— Палёг трыумфальна,
амаль сюррэальна:
было „ах" і „ой" —
палёг як герой.

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. не воўк, у лес не ўцячэ, 4. Юрый, растоўска-суздальскі князь, сын Уладзіміра Манамаха (1090-1157), 6. порт у Тунісе, 7. род ядавітай змяі, 9. расліна сямейства агававых, 11. марка аўтамабіля з ГДР, 12. вывернуты з карэннем корч, 13. сказ з Карана, 15. школьны стол, 17. спецыяльна ўстаноўлены рэжым харчавання, 18. агульнапрызнаная пашана, 19. злучэнне азоту з вадародам.

**Вертыкальна:** 1. частка сцябла прызначаная для прышчэпкі і пасадкі, 2. рытмічны рух сэрца, 3. буйная драпежная марская рыба, 4. спартсменка, якая ўдзельнічае ў двАяборʼі, 5. працэдура прыцягнення да парламенцкага суда вышэйшай службовай асобы дзяржавы, 6. зацягвае рану пры зажыванні, 8. палажэнне, якое прымаецца за бясспрэчную ісціну, 9. штат між Каларада і Невадай, 10. учынак, 14. горад у Чэхіі на 17° усходняй даўгаты і 50°23' паўночнай шыраты, 16. прыступы задышкі ў выніку хваробы сэрца або бронхаў, 17. дакрананне. **(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ па крыжаванку з 18 нумара**

**Гарызантальна:** Чагары, Сараева, варона, насілле, суніца, Арахна, Крапіва, Анкара, бодрычы, Катара.

**Вертыкальна:** асанна, Ароска, Берлін, Чавес, Гарун, ранец, Уганда, Ілірыя, Амарым, ронда, храпа, Акаба.

Рашэнне: **Ігнат Даніловіч**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Прыйшоў Юзік да споведзі.

— Цяжка я награшыў, ойча, — кажа ксяндзу.

— З кім, мой сыне: з жонкаю пекара, што жыве насупраць?

— Не.

— Дык мо з жонкаю капялюшніка?

— Таксама не.

— Тады не магу табе дараваць грахоў, калі не хочаш шчыра пра ўсё расказаць.

Юзік выйшаў з касцёла ды сустрэў сябра:

— Ведаеш, — кажа яму, — маю два новыя адрасы!

* * *

— Калі раніцай чую будзільнік, думаю, што па мне страляюць...

— І таму ўстаеш так рэзка?

— Не: ляжу далей, як забіты.

* * *

— Ці дурнота мужчыны можа быць прычынаю разводу?

— Не ведаю, але часта бывае прычынаю шлюбу.

* * *

Паляўнічы апавядае знаёмым:

— Уваходжу ў лес і адразу спатыкаю казулю! Стрэліў, а яна нічога. Зарадзіў другі патрон, нацэліўся, стрэліў, а яна далей стаіць! Усе патроны выстраляў, і толькі пасля шостага яна ўпала.

— А чаму пасля першага вашага выстралу яна не ўцякла?

— Бо ад старасці была глухая, як пянёк.

* * *

— Што гаворыць муж, калі позна вяртаецца дадому?

— Гаворыць „Добры вечар"; рэшту гаворыць жонка.

* * *

— З кім найлепш здраджваць мужу?

— З гінеколагам або ксяндзом: з першым няма страху, а з другім няма грэху.

* * *

— Ці існуе ў свеце істота больш хітрая і злосная за жонку?

— Так: яе маці.

* * *

— Чаму пасля шлюбу мужчына не дагаджае сваёй жонцы так, як да жаніцьбы?

— А ці бачыў хто калі чалавека, які бяжыць за аўтобусам, седзячы ўсярэдзіне?

* * *

— Ці жанчыны з'яўляюцца добрымі матэматыкамі?

— Так: дзеляць нашы клопаты, падвойваюць радасці і патройваюць расходы.